Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 17 (4817) 30 красавіка 2015 г.

## Пункцірам

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага мастака Беларусі Мая Данцыга з 85-годдзем. «Ваша імя як аднаго з вядучых майстроў станковага і манументальнага жывапісу добра вядома не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Сваёй няспынный працай вы зрабілі значны ўклад у развіццё і папулярызацыю сучаснага беларускага выяўленчага мастацтва», — гаворыцца ў віншаванні.

✔Беларуская дэлегацыя ў складзе 50 чалавек возьме ўдзел у Дзясятых адкрытых маладзёжных Дэльфійскіх гульнях дзяржаў — удзельніц СНД, якія пройдуць пад дэвізам «На славу Вялікай Перамогі» з 1 па 6 мая ў горадзе Арол (Расія). За творчыя ўзнагароды ад Беларусі будуць змагацца навучэнцы Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Акадэміі музыкі, Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя Глебава, студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

✔Спектаклі па творах Янкі Купалы «Адвечная песня» і «Раскіданае гняздо» Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі з аншлагам прайшлі ў Беластоку на сцэне драматычнага тэатра імя А. Венгеркі.

✔Больш за 30 твораў брытанскіх майстроў XVIII — XIX стагоддзяў будуць экспанавацца на выстаўцы «Сустрэча з Брытаніяй. Англійскае мастацтва XVIII — XIX стагоддзяў», якая пройдзе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі з 15 мая па 13 ліпеня. Экспазіцыю складуць работы брытанскіх майстроў перыяду фарміравання і росквіту англійскай мастацкай школы.

✔Гран-пры IX Міжнароднага фестывалю юных талентаў «Зямля пад белымі крыламі» ўдастоены ўдзельнікі з Малдовы і Беларусі. Галоўную ўзнагароду конкурсу ў намінацыі «Сола-вакал эстрадны» атрымала Надзея Воўк (Кішынёў, Малдова). У намінацыі «Эстрадны танец» перамога дасталася заслужанаму аматарскаму калектыву Рэспублікі Беларусь, тэатру-студыі «Радуга» (Магілёў).

✔Рэспубліканскі творчы фотаконкурс «Фота Беларусі», які праводзіўся ў нашай краіне ўпершыню, плануецца ладзіць пастаянна. Больш як 5 тысяч работ паступіла як ад прафесіяналаў, так і ад фатографаў-аматараў.

✔Каля 70 святочных мерапрыемстваў пройдзе ў Мінску ў Дзень Перамогі. Асноўныя святочныя мерапрыемствы адбудуцца 9 мая ў раёне Палаца спорту. Тут пройдзе канцэрт вядучых творчых калектываў і выканаўцаў, выстаўка-кірмаш майстроў народнай творчасці «Горад майстроў», кірмаш ды шмат іншых забаўляльных мерапрыемстваў.

ISSN 0024-4686

9 770024 468001 15017



# Сонечны свет




Фотавыстаўка Яўгена Казюлі адкрылася 23 красавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска — такіх здымкаў вы яшчэ дакладна не бачылі! Серыя работ пад назвай «Той, хто змяняе рэальнасць» — прадстаўляе аўтара з абсалютна нечаканага боку. Справа ў тым, што фатограф, якога па праве можна назваць легендай у нашай краіне, аддаваў перавагу чорна-белым здымкам. Выстаўка давяла, што ён выдатна ўмеў спраўляцца і з колерам. Над гэтымі фатаграфіямі Яўген Карпавіч працаваў у апошнія месяцы жыцця, але так і не паспеў паказаць іх.

Тут — смелы эксперымент майстра, пошук новых сэнсаў і спосабаў адлюстравання свету, імкненне зазірнуць у іншую рэальнасць, па-філасофску асэнсаваць звыклыя краявіды, якія мы бачым кожны дзень.

Дырэктар Музея гісторыі горада Мінска Галіна Ладзісава, адкрываючы экспазіцыю, зазначыла: «Тут, з намі, не хапае аўтара, вялікага фатографа, які на працягу не аднаго дзясятка гадоў быў у авангардзе фотамастацтва не толькі Мінска, але і ўсёй Беларусі. Яўген Карпавіч заўсёды будзе ўспамінацца нам як чалавек вельмі сонечны, добры сябра і сапраўдны прафесіянал». Па яе словах, выстаўка нездарма носіць сімвалічную назву, таму што яе стваральнік сам змяняў вакол сябе свет, — і гэта тычыцца не толькі творчасці, але і ўсяго яго жыцця».

«Кожны сапраўдны фатограф-энтузіяст па сутнасці — вандроўнік. Яго не можа задаволіць штодзённая аднастайнасць працы. Яму як паветра патрэбна змена ўражанняў, якія прыходзяць падчас нейкіх паездак, сустрэч, сітуацый. Таму пры першай магчымасці пакуе ён свой куфар усім неабходным і адпраўляецца ў падарожжа…» — пісаў у адным са сваіх лістоў Яўген Казюля. І дадаваў: «Не шкадуйце ног — хадзіце, назірайце. Толькі так нараджаюцца фатаграфіі, пра якія потым кажуць: «Пашанцавала!». Гэтыя словы, што гучаць нібы запавет сучасным фатографам, можна ўбачыць на выстаўцы побач з партрэтам самога майстра.

Яўген Казюля ўмеў спалучаць у сваіх працах выразную дакументальнасць і мастацкую вобразнасць. Усе яго фатаграфіі пранізвае шчырая любоў да роднай Беларусі, яе прыроды і жыхароў. Без Яўгена Карпавіча нельга ўявіць айчынную фотажурналістыку — ёй прысвяціў ён 20 гадоў жыцця, працаваў у газеце «Голас Радзімы» і БелТА.

Фатограф быў арганізатарам многіх выставак. У іх ліку — «Хатынь», «Мая Беларусь», «Нёманскі шлях», «Вытокі», «Браслаўшчына», а таксама сумесны з нямецкімі і польскімі майстрамі праект «Час цішыні» пра сельскіх жыхароў.

Фотавыстаўка «Той, хто змяняе рэальнасць» была арганізавана дзякуючы сям'і Яўгена Казюлі і фотаклубу «Мінск», адданым кіраўніком якога аўтар быў доўгія гады. Пазнаёміцца з экспазіцыяй можна да 17 траўня.

**Марыя ВОЙЦІК**



*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Абсягі нашых стасункаў

**Наш калега і аўтар, галоўны рэдактар іванаўскай раённай газеты «Чырвоная звязда» Анатоль Крэйдзіч па рашэнні Брэсцкага аблвыканкама ўдастоены ганаровага звання «Чалавек года» (за дасягнутыя высокія вынікі і вялікі асабісты ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё вобласці па выніках работы за 2014 год у галіне грамадскай дзейнасці і інфармацыйнай палітыкі). 1 мая яго будуць віншаваць у Брэсце, а сёння рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» дасылае творцу найлепшыя пажаданні і прапануе чытачам яго артыкул.**

Надзвычай змястоўнай, багатай уражаннямі і эмоцыямі атрымалася наша з пісьменніцай, намеснікам старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Любоўю Красеўскай паездка ў Варшаву, ды і не толькі ў Варшаву… З Брэста — у вельмі блізкі, хоць і праз дзяржаўную мяжу, Цярэспаль, з яго — у Лукуў, адтуль — у Седльцэ. І толькі затым — у Варшаву, з якой у наступныя дні рабіліся творчыя «вылазкі» на поўнач, у Опінагужу, а гэта больш як 120 кіламетраў знаёмства з Польшчай, ды на поўдзень, у павятовы цэнтр Сташова (яшчэ 250 кіламетраў толькі ў адзін бок)… Убачыць пашчасціла шмат што. Акрамя таго, мы былі запрошаны на свята — XV Міжнародны Дзень паэзіі ЮНЕСКА, які традыцыйна ладзіла рэдакцыя часопіса «Паэзія сёння» з 14 па 17 красавіка ўключна.

Па выніках нашых стасункаў з калегамі з Варшавы, якія доўжацца ўжо другі год (летась таксама былі паездкі ў Варшаву і Лондан), дасягнуты канкрэтныя дамоўленасці, а сёлетні красавіцкі форум дапамог расставіць усе кропкі над «і». Агульная задача — перакладаць творы і публікаваць польскія па-беларуску ў айчынным перыёдыцы альбо выдаваць асобнымі кнігамі, а беларускія — у польскіх, а далей і на іншых мовах у іншых краінах, што цалкам магчыма нават у блізкім часе, але вымагае ўдзелу вялікай колькасці перакладчыкаў з абодвух бакоў, а акрамя таго — часу, сродкаў ды шмат чаго яшчэ. Але ж хіба ў нас бракуе творчых сіл?

Што да глебы, на якой усё гэта грунтуецца і якая адначасова з'яўляецца часткай механізму праекта, дык тут усё амаль па-біблейску: спачатку было Слова. І сапраўды, літаратурны часопіс — гэта якраз перш-наперш слова, прынамсі, слова мастацкае — у найвышэйшым сваім прызначэнні. І часопіс гэты, заснаваны ў 1998 годзе, быў названы «Poezja dzisiaj» («Паэзія сёння»). Выдаецца ён у Варшаве, але вядомы ва ўсім свеце. Да гэтага часу ўжо існавала, пачынаючы з 1992 года, кніжнае выдавецтва «IBiS».

Згаданыя часопіс і выдавецтва — дзецішча і ўласнасць Аляксандра Наўроцкага, аўтара дванаццаці паэтычных і двух празаічных зборнікаў, перакладчыка з рускай, балгарскай, украінскай, сербскай, венгерскай, фінскай, англійскай, французскай ды іншых моў, выдаўца, лаўрэата шматлікіх прэстыжных міжнародных літаратурных прэмій.

Пасля завяршэння вучобы ў Варшаўскім універсітэце спадар Аляксандр удасканальваў веды ў Венгрыі і Румыніі, у 1966-м першым у свеце абараніў магістарскую працу, прысвечаную паэзіі Чэслава Мілаша, тады ж выдаў першы паэтычны зборнік «Іржавы плён», а дэбютаваў у паэзіі годам раней у штотыднёвіку «Культура», у Станіслава Граховяка, якога ў Польшчы называлі князем паэтаў. Сёлета споўнілася 50 год, як А. Наўроцкі займаецца літаратурнай дзейнасцю, і сёлета ж пісьменнік святкуе свой 75-гадовы юбілей.

Летась па запрашэнні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Аляксандр Наўроцкі наведаў Беларусь і палюбіў нашу краіну яшчэ больш. Дарэчы, тады госць пазнаёміўся не толькі з Брэстам. Ён наведаў Брэсцкую крэпасць, Белавежскую пушчу, Ружанскі палацавы комплекс Сапегаў і шмат іншых знакавых мясцін нашай краіны, сустрэўся з літаратарамі і творчай інтэлігенцыяй, са студэнтамі і выкладчыкамі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна, пісьменнікамі ў Навагрудку і Кобрыне, узяў удзел у літаратурна-музычнай вечарыне «Паэзія без межаў» у Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы. Па выніках візіту ў Брэсцкім аддзяленні СПБ адбыўся «круглы стол» «Паэзія сёння: міжнародны аспект», падчас якога былі абмеркаваны планы супрацоўніцтва польскіх пісьменнікаў з Брэсцкім абласным аддзяленнем СПБ. І вось — жаданы працяг.

Ва ўсіх справах Аляксандру Наўроцкаму дапамагае верная спадарожніца жыцця і творчасці Барбара Юркоўская-Наўроцкая, якая адыгрывае значную ролю ў працы выдавецтва і рэдакцыі часопіса. Акрамя таго, спадарыня Барбара выдала два ўласныя паэтычныя зборнікі. Яе вершы і пераклады прозы Івана Буніна і Таццяны Талстой публікаваліся ў многіх літаратурных часопісах.

У 2001 годзе польскі Камітэт Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА звярнуўся ў рэдакцыю часопіса «Паэзія сёння» з прапановай арганізаваць комплекс мерапрыемстваў, прысвечаных Сусветнаму дню паэзіі. Ніхто тады нават не падазраваў, што яны перарастуць у міжнародныя і штогадовыя. Больш за тое, пачынаючы з 2008 года спадар Аляксандр ладзіць яшчэ і фестывалі славянскай паэзіі. Усё славянскае для яго — самае роднае, самае блізкае. Новы фестываль, удзел у якім узяла і Любоў Красеўская, адбыўся летась у Лондане. Знаёмства Л. Красеўскай і А. Наўроцкага цалкам можна назваць стартам нашага практычнага супрацоўніцтва.

Да сёлетняга, пятнаццатага, свята паэзіі Аляксандр Наўроцкі выдаў юбілейны, 110-ы, нумар «Паэзіі сёння». У выданні пабачылі свет творы Любові Красеўскай, аўтара гэтых радкоў і брэсцкай школьніцы Антаніны Уфімцавай. У ранейшых нумарах публікаваліся творы берасцейцаў Анатоля Шушко, Марыі Кобец, Валерыя Гапеева, класікаў беларускай літаратуры, многіх сучасных пісьменнікаў з іншых куткоў Беларусі і Беласточчыны.

Пісьменніца і журналіст з Беластока Міра Лукша, якую добра ведаюць у Беларусі (дарэчы, таксама ўдзельніца свята), перастварыла па-польску творы многіх беларускіх майстроў слова. Яе патэнцыял неабмежаваны.

А яшчэ на гэтым свяце была прэзентавана анталогія паэзіі аўтараў з Польшчы і Санкт-Пецярбурга «Масты». Задумка яе вельмі арыгінальная: адкрываеш кнігу з аднаго боку — польскія аўтары, пераварочваеш і адкрываеш з другога — расійскія. На вокладках адпаведна партрэты аўтараў. Прычым на кожнай з больш як сотні старонак знайшлося месца і арыгіналу, і перакладу, каб чытачу зручней было параўноўваць тэксты.

А што датычыць беларуска-польскіх літаратурных стасункаў, то пазалетась убачыла свет кніга перакладаў «Вершы 12 сучасных польскіх паэтаў», якой папярэднічаў выхад «Анталогіі беларускай паэзіі» ў Польшчы, ініцыяванай зноў жа Аляксандрам Наўроцкім у супрацоўніцтве з Культурным цэнтрам Беларусі ў Варшаве. Польскіх аўтараў пераклалі Міра Лукша ды Віктар Швед, беларускія пісьменнікі з Беластока. Выдаўцамі выступілі Дом-Музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Акадэміі навук Беларусі, Міністэрства культуры Беларусі пры супрацоўніцтве з Кніжным выдавецтвам IBiS.

Акрамя беларускіх і польскіх літаратараў, у свяце ўдзельнічалі паэты, перакладчыкі, крытыкі, навукоўцы з Вялікабрытаніі, Татарстана, Расіі, Літвы, Славеніі, Румыніі, Венгрыі… Бадай, тут сабраліся прадстаўнікі амаль усіх народаў і народнасцей свету, у тым ліку маленькіх, як, напрыклад, лэмкі. І ўсе змаглі выступіць, павіншаваць юбіляра, прадэкламаваць вершы на родных мовах альбо пераклады з польскай, а польскія літаратары чыталі пераклады на польскую з іншых моў.

Адметна, што на свята прыехаў і народны вакальны ансамбль з Брэста «Рамонкі» на чале з мастацкім кіраўніком Вадзімам Мядзведзем. Юныя прыгажуні Вікторыя Аўдзяйчук і тры Кацярыны — Сокал, Траццякова і Заркова — спявалі акапэльна, чым выклікалі бурныя авацыі залы.

Мерапрыемствы ладзіліся ў цэнтры Варшавы — у Доме Палоніі, музеі імя Адама Міцкевіча, Доме літаратуры, дзе мы жылі і харчаваліся, а таксама ў музеі Фрэдэрыка Шапэна, Музеі рамантызму ў гарадзе Опінагужа, Цэнтры культуры горада Сташуў, дзе, акрамя ўсяго, узялі ўдзел у адкрыцці фотавыстаўкі да 10-годдзя з дня смерці Папы Іаана Паўла ІІ…

Падчас аднаго з нядаўніх пасяджэнняў Брэсцкага абласнога аддзялення высветлілася, што перакладамі з польскай мовы могуць займацца як мінімум пяцёра прадстаўнікоў толькі Брэсцкай пісьменніцкай суполкі. А значыць, ёсць шанц выдаць да канца года анталогію паэзіі берасцейскіх і польскіх аўтараў на дзвюх альбо нават трох мовах: беларускай, рускай і польскай.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Пагутарыць з аўтарам

**Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі, што праводзіўся ў Гарадоцкім культурна-асветніцкім цэнтры і сетцы публічных бібліятэк падчас вясновых канікулаў, быў адзначаны адметнай падзеяй: на сустрэчу з юнымі аматарамі чытання завітала паэтэса Тамара Краснова-Гусачэнка, якая піша вершы і для дзяцей, і для дарослых.**

На Гарадоччыне Тамара Іванаўна не ўпершыню: летась яна была ганаровым госцем свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору «Гарадоцкі Парнас».

Паэтэса прадставіла публіцы новае выданне — «Гэта кніга дзецям аб усім на свеце». Творца зазначыла: якія б ні былі часы, кніга — мудры дарадца, спадарожнік па Свеце — не страчвае актуальнасці.

— Маленькія субяседнікі прыемна ўразілі мяне сваёй цікаўнасцю, гатоўнасцю да дыялогу, актыўнасцю, — зазначыла паэтэса.

**Святлана ЯКАЎЛЕВА**

*Да ведама*

# Каракумскае прывітанне

Туркменскага паэта і празаіка Агагельды Алаказарава добра ведаюць у Беларусі. У Мінску выйшлі дзве яго кнігі, адрасаваныя дзецям.

Жыццю і творчасці туркменскага шахіра прысвечаны зборнік артыкулаў, які нядаўна пабачыў свет у Ашхабадзе. Сваімі развагамі пра здзейсненае Агагельды Алаказаравым дзеліцца туркменскія і рускія пісьменнікі: А. Гачманаў, А. Таган, Р. Бухараеў, Я. Навічыхін, В. Коркін, Дж. Няпесаў, Б. Араздурдыева ды інш.

Сярод іншых публікацый зборніка — і гутарка на тэму «Агагельды Алаказараў і Беларусь». У свой час яна была надрукавана ў часопісе «Нёман». Пісьменнік гаворыць пра традыцыі, што яднаюць Беларусь і Туркменістан, расказвае пра беларускіх пісьменнікаў, з якімі ён у розныя часіны сябраваў. А таксама дзеліцца развагамі пра тое, якія кнігі яму дапамаглі адкрыць Беларусь. Называе творы Петруся Броўкі, Івана Шамякіна, Васіля Быкава ды іншых.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Сюрпрыз творцам

Арыгінальныя падарункі падрыхтавалі сябрам Мінскага гарадскога аддзялення СПБ чацвёртакласнікі СШ № 207 да літаратурнага свята «Кнігі збіраюць сяброў». Прымеркаванае да Міжнароднага дня дзіцячай кнігі, мерапрыемства адбылося ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 15.

На імпрэзу завіталі галоўны спецыяліст МГА СПБ, паэтэса Іна Фралова, жонка пісьменніка Уладзіміра Скарынкіна Валянціна Скарынкіна, пісьменнікі Яна Явіч, Анатоль Зэкаў і Аляксандр Вашчанка. Школьнікі дэкламавалі вершы Уладзіміра Скарынкіна, Анатоля Зэкава, Ніны Галіноўскай, спявалі песні пра вайну і не толькі, нават паказалі сцэнку па кнізе Я. Явіч «Уцёна хоча ведаць».

У адказ Валянціна Скарынкіна прадэманстравала публіцы новую кнігу Уладзіміра Максімавіча «Дзе і як жыве Нептун?». Анатоль Зэкаў патлумачыў у вершаванай форме, як правільна ставіць націск у некаторых беларускіх словах, раскрыў тонкасці двухмоўя. Песні пад гітару праспяваў пісьменнік і бард Аляксандр Вашчанка. Яна Явіч прадставіла сваю кнігу «Уцёна хоча ведаць» і распавяла гісторыю яе напісання.

Павіншавала школьнікаў ды кніжніцу і паэтэса Іна Фралова, якая ўручыла калектыву бібліятэкі грамату ад Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.

**Арына КРАЙКО**

Юбілеі

# Талент, прысвечаны дзецям

Шостага мая пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду, член Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці, узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, Уладзімір Ліпскі адзначае свой юбілей — 75-годдзе. Усё свядомае жыццё ён прысвяціў дзецям: 37 гадоў узначальвае часопіс «Вясёлка», а год таму стварыў часопіс для дашкольнікаў — чытанку-маляванку «Буся».

Уладзімір Ліпскі вядомы не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. Яго мастацка-дакументальныя аповесці, эсэ, нарысы і апавяданні, кнігі для дзяцей перакладзены на рускую, украінскую, літоўскую, нямецкую мовы. Творчасць мастака слова ўключана ў вучэбныя праграмы школ, педагагічных вучылішчаў і каледжаў, вывучаецца на філалагічных факультэтах ВНУ педагагічнага профілю. Як старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі дзіцячых фондаў ён клапоціцца пра лёсы дзяцей-сірот, чарнобыльцаў: яго кнігі «Падкідыш», «Бацькі і дзеці», «Мама. Малітва сына», «Бацька. Лісты на неба» ўздымаюць глыбокія пытанні сямейнага выхавання, духоўнасці, вучаць уважліва і чула ставіцца да маленькіх сэрцаў, што прагнуць дабрыні і спагады. Нездарма пісьменнік Анатоль Кудравец пра кнігу Уладзіміра Ліпскага «Мама. Малітва сына» напісаў, што «адкрытасць, шчырасць пераводзяць кнігу-споведзь з абсягаў вельмі асабістых у абсягі грамадска-значныя, грамадска-неабходныя». «Яна вяртае нас у вечнае — туды, дзе праўда, чысціня, радасць», — упэўнена і народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.

Такія кнігі юбіляра, як «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод», «Янкаў вянок» (дзецям пра Янку Купалу), «Жыві сёння», «Сонца над галавой», «Вясёлка над Нёманам», «Я тут жыву», выводзяць аўтара на абсяг лепшых узораў сучаснай беларускай літаратуры.

Уладзімір Ліпскі — выдатны пісьменнік-дакументаліст. «Біяграфічны жанр ён засвойваў, працуючы над кнігамі «Крутыя вёрсты» (пра Героя Савецкага Саюза Зінаіду Тусналобаву-Марчанка), «Урокі Купрэвіча» (пра славутага беларускага акадэміка), «Невядомы» (пра Ігната Грынявіцкага), «Мужык» (пра Аляксея Скакуна)», — адзначыў у сваёй рэцэнзіі дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

Шмат казак напісаў Уладзімір Ліпскі для дзяцей. Выйшлі яго кнігі «Каралева белых прынцэс», «Прыгоды Нуліка», «Наша Маша», «Вясёлая азбука», «Антонік-Понік» ды інш.

Уладзімір Ліпскі імкнецца сцвярджаць дабро, вучыць любіць сваю Радзіму і кожнага чалавека ў ёй, адчуваць радасць ад жыцця і літаратуры. Відаць, таму ён і стаў заснавальнікам найбуйнейшага ў Беларусі свята народнага гумару ў Аўцюках. Народны артыст Беларусі Генадзь Аўсяннікаў адзначыў: «Можна з радасцю засведчыць, што на Палессі нарадзілася новая, адмысловая традыцыя».

Кандыдат філалагічных навук, літаратуразнавец Маргарыта Яфімава склала кнігу «Уладзімір Ліпскі: Не выжываю, а жыву!». У кнігу ўвайшлі шматлікія рэцэнзіі пра творчасць і грамадскую дзейнасць Уладзіміра Ліпскага. Супрацоўнік навукова-метадычнай установы «Нацыянальны інстытут адукацыі» Ірына Буторына напісала пра пісьменніка кнігу «Свой у краіне дзяцінства». А Гомельскае тэлебачанне ў серыі «Постаці» стварыла фільм пра свайго знакамітага земляка Уладзіміра Ліпскага.

Айчынны мастак, аўтар славутага цыкла «Мадонны» Аляксей Кузьміч пісаў: «Талент Уладзіміра Ліпскага шматгранны. Яго сонечнай энергіі хапае на ўсё. Скажу больш: ягонае жыццё напоўнена залатым і радасным святлом. Уладзімір Ліпскі тонка разумее прыгажосць, адчувае гармонію і бязмежна любіць жыццё. Няхай жа і далей яго талент адухаўляе людзей, увесь свет».

Няхай гэта будзе пажаданнем юбіляру — выдатнаму пісьменніку, галоўнаму рэдактару папулярных часопісаў для дзяцей «Вясёлка» і «Буся» Уладзіміру Сцяпанавічу Ліпскаму. Няхай яго слова шчырасці і дабра жыве ў сэрцах дзяцей і дарослых!

**Ад імя рэдкалегіі і рэдакцыі часопісаў «Вясёлка» і «Буся» — Маргарыта ПРОХАР, Раіса БАРАВІКОВА**

# Ганначка і драўляны «спадарожнік»

Новы экспанат з'явіўся ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча: куфар, які належаў Ганне Какуевай. Чарнавокая яраслаўская дзяўчына ўзрушыла сэрца паэта, натхніла на стварэнне знакамітай «Зоркі Венеры» і шэрагу іншых твораў. Гісторыя іх кахання не спраўдзілася ў жыцці, але назаўсёды засталася ў вершах. Куфар быў прадстаўлены 24 красавіка падчас імпрэзы «Планета кахання», прысвечанай 125-годдзю з дня нараджэння той самай паненкі з Яраслаўля.

Літаратурны музей Максіма Багдановіча, дзякуючы сыну спадарыні Какуевай, захоўвае некалькі яе рэчаў. Сярод іх — фотаздымкі ад самага маленства да сталага ўзросту, вышыўка на аксаміце, ноты, паштоўкі і лісты, рыдыкюль, даροўная стужка бацькі.

Куфар жа прывезлі з Санкт-Пецярбурга. Рарытэтны экспанат мае больш чым стагадовую гісторыю, бо Ганна выйшла замуж і стала Ліліевай у 1914 годзе, а на куфэрку яшчэ адбіта «А. К». Шмат легенд можна прыдумаць, гледзячы на гэты дзявочы «скарб», які пахне чыгункай і падарожжамі, прыкметна патрапаны, але ўсё яшчэ ладны — памер у куфра, дарэчы, даволі прыстойны.

Прэзентацыяй каштоўнага экспаната імпрэза ў музеі не скончылася. Беларускія літаратары ўчынілі рамантычны «парад успамінаў»: дзяліліся гісторыямі кахання сваіх куміраў.

Так, пісьменнік, выдавец і мастак Адам Глобус узгадаў, як яго тата і мама, яшчэ зусім маладыя, ішлі басанож уздоўж рэчкі і неслі ў руках чаравікі — гэты выпадак чамусьці запомніўся на ўсё жыццё. «Матуля пасля смерці бацькі ніколі не чысціла свае боты, бо гэта рабіў толькі муж», — дадаў Адам Глобус.

Філолаг, перакладчык, паэт Уладзь Лянкевіч адзначыў, што «казаць пра чужое каханне — не вельмі правільна», але ж цікавасць перамагае этыку. Сумная гісторыя, якой падзяліўся ён, тычылася лідара гурта The Doors Джыма Морысана і жанчыны, якая разумела музыку лепш за ўсіх, — Памелы Курсан. Навуковы супрацоўнік музея, паэт Міхаіл Бараноўскі падзяліўся сваім меркаваннем наконт адносінаў Уладзіміра Караткевіча і Ніны Молевай.

Беларуская літаратарка, перакладчыца Юлія Цімафеева крыху «разбавіла» аповеды пра бясконцыя спатканні і зачытала лісты — Франца Кафкі да чэшскай перакладчыцы Мілены Ясенскай. Паэтэса Віка Трэнас паглыбілася ў гісторыю Іосіфа Бродскага і Марыны Басманавай, чыёй рукі паэт дабіваўся доўгія гады. «Мяне ўразіла вернасць аднаму пачуццю, якое Бродскі пранёс да самага канца жыцця», — падвяла вынік выступоўца. Сапраўды, ці не гэта галоўнае?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Каб працавалі на Радзіме

Беларускія літаратуразнаўцы штогод сустракаюцца на Гарэцкіх чытаннях, каб абмеркаваць пытанні гарэцказнаўства, падзяліцца адкрыццямі і назіраннямі. У «Матэрыялах Гарэцкіх чытанняў», якія рыхтуюцца па выніках канферэнцыі, змешчана больш за 450 навуковых артыкулаў. Знаёмства з навуковымі зборнікамі — выдатная магчымасць далучыцца да рознабаковага асэнсавання творчасці Максіма Гарэцкага. За ўсю гісторыю чытанняў 150 дакладаў былі прысвечаны «малой прозе» пісьменніка, а ў 70 артыкулах зборнікаў разглядаецца моўныя асаблівасці яго твораў.

Чарговая канферэнцыя была прысвечана 115-годдзю з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага і 95-годдзю першага выдання «Гісторыі беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага». Сярод удзельнікаў XXIII Гарэцкіх чытанняў — Анатоль Вярцінскі, Тамара Тарасава, Тэрэза Голуб, Роза Зінава, Уладзімір Навумовіч, Міхась Кенька, Таіса Грамадчанка. Старшынствавалі ж на канферэнцыі паважаныя Радзім Гарэцкі і Міхась Мушынскі.

Радзім Гарэцкі расказаў пра свайго бацьку, з захапленнем зачытаў лісты Гаўрылы Гарэцкага, адрасаваныя дзецям. У час турэмнага зняволення адзінай магчымасцю было выхаванне праз ліставанне. Таму кожны допіс Г. Гарэцкага — гісторыя бацькоўскай любові і светлага спадзявання, што дзеці стануць добрымі людзьмі. А запаветная мара вядомага навукоўца была адна: каб дзеці працавалі на Радзіме.

Вялікую цікавасць выклікаў даклад кандыдата мастацтвазнаўства, кандыдата філалагічных навук Галіны Кутыровай-Чубаля, прысвечаны фальклорнаму зборніку М. Гарэцкага і А. Ягорава. Да гэтага выдання нячаста звяртаюцца навукоўцы, хаця фальклорная спадчына пісьменніка бясспрэчна вартая асобнага даследавання.

Нягледзячы на бесперапынную ўвагу да твораў М. Гарэцкага, на канферэнцыі сталі відавочнымі прагалы ў даследаванні матэрыялу. Так, недастаткова прааналізаванай застаецца драматургія пісьменніка, хаця многія рэжысёры адзначаюць высокія здольнасці Гарэцкага-драматурга. На абмеркаванні вынікаў Гарэцкіх чытанняў была агучана прапанова звярнуцца да кіраўнікоў беларускіх тэатраў з мэтай рэкамендаваць для пастаноўкі п'есу «Жартаўлівы Пісарэвіч». Драматургія Гарэцкага магла б прывабіць сучаснага гледача, бо да творчасці пісьменніка з цікаўнасцю ставяцца нават за мяжой. Так, ужо другі год у Германіі на штогадовым кніжным кірмашы, які гэтым разам праходзіў у Лейпцыгу, прадстаўляецца аповесць «Дзве душы», перакладзеная на нямецкую мову.

**Вольга ГУБСКАЯ**

# Незабыўныя ўражанні

Не толькі цікавымі кнігамі і літаратурнымі навінамі, але і адметнымі мерапрыемствамі прываблівае чытачоў 11-я гарадская бібліятэка г. Мінска. Нядаўна тут адбылося літаратурнае свята «Смяяцца не грэх».

Як заўсёды, вечарыны рыхтуюцца вельмі старанна: гасцям прапануецца выстаўка кніг, часопісаў і газет, утульная зала. Парадавалі і гэтым разам: з гумарыстычнымі вершамі выступалі паэты Мікола Чарняўскі, Анатоль Зэкаў, Вольга Шпакевіч. А мастак часопіса «Вожык» Аляксандр Каршакевіч расказаў прысутным, як стваравецца часопіс, паглыбіўся ў гісторыю, успомніў смешныя эпізоды.

**Вольга БІРУК**

# Развітальнае слова



23 сакавіка пакінуў гэты свет выдатны паэт, сумленны, шчыры і прынцыповы чалавек — Алег Уладзіміравіч Салтук.

Ён нарадзіўся 25 жніўня 1946 года ў вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна ў сям'і руплівых хлебаробаў.

Радзіма паэта — Шуміліншчына, гераічны партызанскі край, які падчас апошняй вайны панёс велізарныя чалавечыя страты. І невыпадкова ў свой час было прынята рашэнне пачаць унікальную шматтомную гісторыка-дакументальную хроніку «Памяць» з кнігі пра Шумілінскі раён.

Любоў да роднай зямлі, да чалавека працы, далучанасць да гераічнага подзвігу народа — усё гэта знайшло пранікнёнае, шчырае адлюстраванне ў паэтычных і публіцыстычных творах паэта.

Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся на аддзяленні рускай мовы і літаратуры Магілёўскага педагагічнага інстытута. Служыў у Савецкай Арміі, працаваў адказным сакратаром раённай газеты «Патрыёт» ва Ушачах, уласным карэспандэнтам абласной газеты «Віцебскі рабочы».

Першыя вершы Алег Салтук надрукаваў у 1965 годзе ў «Магілёўскай праўдзе». З тае пары паэзія захапіла яго, акрыліла на творчае асэнсаванне жыцця, часу і месца чалавека ў іх. Грамадзянскія матывы арганічна спалучаліся ў творах паэта з інтымнай лірыкай, і гэта асабліва прываблівала чытачоў.

Адна за адной выходзяць кнігі «Пачатак дня» (1974), «Працяг» (1977), «Свята зямлі» (1982), «На далонях жыцця» (1989), «Трывога лёсу» (1996), «Не разлюбі» (2003), «На вейцы веку» (2006), «Дзве зары» (2011), «Вяртанне» (2014).

Алег Салтук узнагароджаны Рэспубліканскімі і абласнымі літаратурнымі прэміямі, у тым ліку прэміяй Саюза пісьменнікаў Беларусі «Залаты Купідон», прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Алегу Салтуку прысвоена званне Ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі. Творы перакладаліся на рускую, украінскую, польскую, балгарскую, нямецкую і іншыя мовы.

Не стала шчырага сябра, таленавітага творцы, але ён застанецца ў добрых і светлых успамінах.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Не стала творцы, але ён заўсёды будзе з намі, бо вершы, у якія ўкладзены розум, душа, пачуцці, сумленне, не паміраюць. Тыя, хто ведаў Алега Салтука, глыбока смуткуюць з прычыны яго смерці, выказваюць спачуванне яго родным і блізкім.

**Віцебскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Сем дзесяцігоддзяў прайшло з дня Вялікай Перамогі. Яшчэ жывуць сярод нас яе равеснікі і сведкі. Гісторыя сплывае ў нябыт. Памяць пра тых, хто семдзесят гадоў таму падарыў нашаму народу светлае свята і мірнае неба, не сціхае ў сэрцах і ўспамінах пакаленняў дзяцей, унукаў, праўнукаў… Прапануем увазе чытачоў «ЛіМа» нізку вершаў айчынных аўтараў.**

Іван СТАДОЛЬНІК

## Песня следапытаў

*Так даўно адгрымелі баі,*
*Загаіліся цяжкія раны.*
*Ды яшчэ ў непагодныя дні*
*Спаць яны не даюць ветэранам.*

*Ветэранам прыходзяць у сны*
*Дружбакі, якіх больш не пабачыць,*
*І страшэннае пекла вайны,*
*Грукат бітваў крывавых, гарачых.*

*Маці знакаў чакаюць штодзень*
*Ад сыноў, што без вестак прапалі:*
*Можа, бачыў іх часам хто дзе,*
*Можа, ведае, дзе пахавалі?..*

*Наша мэта — пакінуць вякам*
*Кожны подзвіг, геройскі учынак,*
*Што здзяйсняць давялося бацькам*
*У імя несмяротнай Айчыны.*

*Каб нашчадкі маглі іх цаніць*
*І Радзімай сваёй ганарыцца,*
*Помніць тыя суровыя дні*
*І ў вяках ім не даць*
*паўтарыцца.*

Галіна ЗАГУРСКАЯ

## Равеснік перамогі

*Рассыпаў май па лесе кветкі,*
*Яны бялеюць ля дарогі —*
*Вясновага уздыму сведкі.*
*Сам бор — равеснік перамогі.*

*Быў час, што вораг лес тут высек,*
*Звёз у Нямеччыну лясіны.*
*Ды бор імкнецца зноў да высяў,*
*І чуцен зык у ім ласіны.*

*Тут біўся партызан да змогі —*
*Пра тое песня наша ўецца*
*У дзень вялікай Перамогі.*
*А памяць наша — не звядзецца…*

Людміла КРУГЛІК

## Невядомы салдат

*На брацкіх магілках — спакой і цішыня,*
*І толькі вецер гоніць хмары.*
*Жанчыны постаць там амаль штодня*
*Стаіць як цень. Пра штосьці марыць.*

*Чакае бацьку столькі доўгіх год,*
*Хоць галава яе даўно ссівела.*
*Ды час вядзе няспынны карагод —*
*Не пахавана яго цела.*

*Няма ні весткі з той былой вайны,*
*А ён — і не жывы, і не забіты…*
*Прыходзяць да яе штоночы сны,*
*Якія стужкай шчасця перавіты.*
*Вясновым ранкам ля святых магіл*
*Яна стаіць і з месца не скранецца.*
*З вачэй яе, нібы патрапіў пыл,*
*Журботная сляза ліецца.*

Яна ЯВІЧ

## Памяць сэрца

*Вечны пажар, кулі і кроў*
*Голасам сэрца ўспыхваюць зноў.*
*Здзекі канцлагера, пекла пакут…*
*Многія людзі загінулі тут.*
*Знішчана полымем вёска Хатынь…*
*Памятай, сэрца, таксама аб тым,*
*Што нам пакінуў ваенны агонь*
*Страты цяжкія, попел і стогн…*
*Горкі той час назаўсёды ўвайшоў*
*У нашыя душы лёсам байцоў,*
*Чорнай імглою, вечным агнём,*
*Бітвай крывавай уночы і днём.*
*Шмат нашых жыццяў знесла вайна.*
*У смерчы пакут вінавата яна.*
*Нельга забыць чорны памятны дзень*
*Той, на якім адбіваецца цень*
*Жахаў Вялікай Айчыннай вайны…*
*Колькі бяды нам прынеслі яны!*
*Толькі трымаемся ноччу і днём*
*Мы перад вечным крывавым агнём.*
*Б'юцца рытмічна сэрцы салдат:*
*«Толькі наперад! Ні кроку назад!»*
*Чуецца голас скрозь попел і дым:*
*«Мы — пераможам! Мы — адстаім!»*
*…Год сорак пяты. Перамаглі —*
*Дзеля Радзімы, маці-зямлі.*



Фота Яўгена Коктыша

Галіна НІЧЫПАРОВІЧ

## Была вайна…

*Была вайна…*
*Пакуты, слёзы, страты…*
*І кожны трэці*
*Не прыйшоў дахаты.*
*Была вайна…*
*Мы знаем з успамінаў*
*Дзядоў, бацькоў.*
*Нам гэта напамінам*
*Аб тых страшэнных днях,*
*Там смерць касіла.*
*Матуля па сыночку галасіла.*
*Бо на стале*
*Ляжала пахаронка,*
*А за вакном*
*Спявалі птушкі звонка.*
*Вясна будзіла*
*Клейкія лісточкі.*
*Не дачакаўся хтосьці*
*Сына, дочкі,*
*І ўдовы маладыя галасілі*
*Па дзетках тых,*
*Якіх не нарадзілі.*
*Была вайна…*
*Плыве набат Хатыні.*
*Была вайна…*
*І кроў у жылах стыне.*

Ірына ДАНІК

## Вечны агонь

*Ён гарыць, каб ніколі-ніколі*
*Не забылі Айчыннай вайны…*
*Каб матулі сказалі: «Даволі!*
*Нам патрэбныя нашы сыны».*
*Колькі ўжо расцярушана часу —*
*Тая рана дагэтуль баліць.*
*Мы жадаем, каб нашых нашчадкаў*
*Не спаткала вайна…*
*Трэба жыць!*
*Трэба разам тварыць наша заўтра*
*І пра мір гаварыць на зямлі.*
*І каб Вісла, Даўгава і Ватра*
*Па прасторах свабодных цяклі.*

# Ландшафт дружбы

У Элісце (Калмыкія) выйшла адметная кніга, якая мае самае непасрэднае дачыненне да Беларусі, — «Ландшафт гісторыі: Хрэстаматыя па калмыцкай літаратуры на мовах народаў свету» (аўтары — Міхаіл Хонінаў і Рыма Ханінава). Беларускі партызан і калмыцкі паэт Міхаіл Хонінаў, якога ў Вялікую Айчынную ў Беларусі звалі Міша Чорны, прадстаўлены ў вершах на розных мовах. І на беларускай — далёка не ў апошнюю чаргу. Пад адной вокладкай змешчаны пераклады, якія зрабілі Аляксей Пысін, Максім Танк, Антон Бялевіч, Юрась Свірка, Сяргей Грахоўскі, Рыгор Барадулін, Казімір Камейша. Некаторыя з тых даўніх перастварэнняў мы і прапануем чытачам «Літаратуры і мастацтва». Многія вершы легендарнага паэта прысвечаны Беларусі, народным мсціўцам, простаму люду, які пакутаваў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пакутаваў і змагаўся… Як і сёння змагаецца з бездухоўнасцю і фальсіфікатарамі гістарычнай праўды пра Вялікую Айчынную жывы радок Міхаіла Хонінава.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Міхаіл ХОНІНАЎ

## Тры адказы

*Калі за Смаленскам —*
*ні ўстаць,*
*ні прысесці, —*
*Ляжаў я ў балоце,*
*падбіты*
*вайной,*
*З'явіўся з пытаннем*
*Лёс перада мной:*
*«Што найдаражэйшым*
*ты лічыш*
*на свеце?»*
*Ледзь чутна прамовіў я:*
*«Хлеба кусок».*
*Калі заблудзіў*
*я у стэпе,*
*ў бур'яне,*
*І звалены быў*
*я спякотай густой,*
*З'явіўся з пытаннем*
*Лёс перада мной:*
*«Якое найбольшае*
*маеш жаданне?»*
*Сказаў я: «Калмыцкага*
*чаю глыток».*
*Калі ачуняў я, падняўся*
*з пасцелі,*
*І ўсе за сталом мы*
*сямейным паселі,*
*Лёс з тым*
*жа пытаннем,*
*і я адказаў:*
*«Таму, хто боль звёдаў*
*і смерць адагнаў,*
*Патрэбней за ўсё —*
*слова добрага друга».*

**Пераклад Аляксея ПЫСІНА**

## Вось якія беларусы

*Беларусы — гэта пушчы*
*векавыя,*
*Гэта — Нёман, Прыпяць,*
*Нарач і Дзвіна,*
*Дзе гуляюць хвалі бурныя,*
*крутыя,*
*Грывы шумныя ўздымаючы*
*са дна.*
*Хвалі гэтыя здаюцца*
*мне часамі*
*То разбуджанымі*
*ў полі кавылямі,*
*То сайгачым шэрым гуртам*
*незлічоным,*
*Што, пакрыты пены*
*белаю імглой,*
*Скача праз усе парогі і адхоны*
*За чабанскаю скрыпучаю*
*арбой.*
*Беларусы…*
*Яны — у дружбе ўсе*
*з прыродаю сваёю.*
*Любяць рэкі свае,*
*пушчы і палі,*
*Быццам Джангра батыра*
*на полі бою,*
*Разумеюць галасы сваёй зямлі.*
*Сосны, укрыўшы*
*нечапаныя крыніцы,*
*Вольна дыхаюць,*
*набраклыя жывіцай.*
*Беларусы…*
*Я іх бачу на калгасных*
*нашых нівах,*
*Чую, як пяюць за працаю яны,*
*Сеюць збожжа, ткуць*
*старанна і руплiва,*
*Трактары іх уздымаюць*
*дзірваны,*
*Каб у кожнага акраец хлеба быў,*
*Каб ніхто не знаў бяды*
*і ў шчасці жыў.*
*Вось якія беларусы!*
*На дарогах, што удалечы*
*імкнуць,*
*Я іх бачу, працавітых*
*і нястомных,*
*Як яны бетон, жалеза,*
*лес вязуць,*
*Будаваць нам памагаюць*
*шахты, домны,*
*Каб зямля, дзе імя Леніна жыве,*
*Расцвітала ў непаўторным*
*харастве.*
*Вось якія беларусы!*
*Беларусы — гэта Колас*
*і Купала,*
*Несмяротныя народы*
*джангарчы.*
*Песні іх усімі струнамі*
*спявалі,*
*А ў час грозны зіхацелі,*
*як мячы.*
*Яны мужна ў сваіх*
*жылістых руках*
*Неслі ленінскі высока*
*ўзняты сцяг.*
*Вось якія беларусы!*
*Беларусы — гэта Мінск*
*цудоўны, светлы,*
*Як празрыстае люстэрка,*
*у якім*
*Бачыш твар свайго*
*таварыша прыветны*
*У зялёным абрамленні*
*веснавым.*
*Перамогі абеліск,*
*а ля яго —*
*Зніча вечнага запалены агонь.*
*Каб гарачых сэрц*
*святло гаіла раны,*
*Памагала ўсім знаходзіць*
*верны пуць.*
*Вось якія беларусы!*
*Як цюльпаны,*
*Што ў краіне Бумбы*
*казачнай растуць.*

**Пераклад Максіма ТАНКА**

## Дар’я ЛЁСАВА

# Праз гады…

## *Апавяданне*



Гэта здарылася познім вечарам. Я зазбіралася ў краму, каб купіць што назаўтра паесці. Мама ляжала на ложку зусім белая, апошнім часам яна рэдка выходзіць на вуліцу. Але гэтым разам яна ўстала і рашуча заявіла:

— У краму пайду сама. Ты не ўмееш купляць. Распусціш грошы толькі, а месяц яшчэ такі доўгі — не хопіць зноў…

— Ды не буду я абы-што купляць. Ці ж я не разумею?

Але мама мяне ўжо не слухала. Моўчкі, на дзіва хутка апранулася.

— Тады я з табой. А то яшчэ паваліішся дзе… — кінула я ёй і таксама хутка апранулася.

Мама ўсміхнулася аднымі куточкамі вуснаў, прынамсі, так мне падалося. На гэты раз яна была падобная да Джаконды. Уся — загадка! Яе задуменне, яе незвычайна-выразны, акрэслена-нутраны пагляд не толькі заварожваў, але прымушаў угледзецца ў сябе, запытацца у сябе, ці варта я яе жыцця, яе зламанага з-за мяне лёсу… Цаной свайго жыцця яна ўратавала мяне некалі ад жаху, здзеку, дзікунства… Я не хачу пра гэта думаць (а думаецца!), я не хачу пра тое ўспамінаць (а ўспамінаецца!). Я хачу забыць пра сваё дзяцінства, хачу выхапіць з яго толькі маю бедную мамачку і зляцець кудынебудзь з гэтай зямлі, дзе могуць так горка, як я некалі, плакаць дзеці… Не-не, ды й здараецца на зямлі такое дзікунства, пра якое немагчыма, здаецца, і расказаць…

Ой, замоўкні, душа, не трэба!.. Прайшлі гады, ты выжыла, ты павінна проста забыць, выкрасліць нешта са свайго жыцця, каб ісці далей.

Штосьці пякуча-шчымлівае разлілося ў сэрцы. Бедная мая мама… Я такая няўдаліца! Куды ні іду — абавязкова на шляху стрэнецца то бервяно, то камень, то багна… І абавязкова, не чапаючы нават, каго-небудзь зачаплю і атрымаю то па спіне, то па нагах, то па галаве.

Даруй, мамачка, што я такая. Не вінавата я, павер. Я ж усім-усім, каб жыць у гэтым свеце, дагаджаю! То поўныя сумкі камусьці нясу, то камяні з нейчага шляху збіраю… А як баліць мая спіна, пашкоджаная бацькам з яго сяброўкай-сектанткай у дзяцінстве, — ніхто не спытае… Адна дама, дазнаўшыся, што сапраўды баліць мая спіна, наадварот, падклала ў маю сумку груз, каб цяжэй было несці… Гэта мяне так уразіла! Што ж я табе такога дрэннага зрабіла, мая былая начальніца?

Сапраўды, свет людзей — цёмны лес. Іншым разам мне здаецца, што я ў ім заблудзілася, патрапіла не ў свой час. Або ўвесь свет зайшоў у мяне настолькі, што цяжка нават дыхаць. А мо гэта Крыж Хрыста — на мяне з неба?!.

…Адзінока, горка я іду па сваёй нязоркавай дарозе, пільна ўглядаючыся ў кожнага, хто шыбуе насустрач. А раптам бліснуць нечая душа, раптам засвеціцца радасць ад сустрэчы са мною? Раптам роднае, дарагое, адзінае — назаўсёды?

Ды што гэта я? Пра што сёння? І каму? І нашто? Трывожна падае святло на маю шарыкавую ручку, якой выводжу на белым аркушы паперы свае развагі, вяртаючыся назад у тую краму…

Так, мы былі з мамай ужо ў краме, разам выбіралі прадукты. Збоку ад нас крутнулася малая, гадкоў недзе двух. Пацягнулася па пачак зефіру, што ляжаў на самай ніжняй паліцы. Пачак быў прыгожа, ярка размаляваны. Мусіць, гэта і прыцягнула ўвагу малой. Але толькі працягнула ручку, як на спінку яе абрынуўся ўдар: адкуль ні вазьміся, ля дзяўчынкі апынулася прыгожая маладзіца (яна не заўважыла нас, а больш тут нікога не было) і пачала біць малую… Адбылося гэта так імгненна, так нечакана, што мама выпусціла з рук напоўненую сумку. І толькі гэта спыніла жанчыну ад далейшых удараў. Але паспела так шкуматнуць дзіцятка, так яго з усёй нянавісцю тузануць, што тое ўпала.

Мама кінулася на дапамогу.

— Што вы робіце? — закрычала, задыхнуўшыся ад гневу і абурэння. — Вы ж пашкодзіце малой пазваночнік!

А дзяўчынка, адчуўшы падтрымку, з усяе сілы кінулася ўцякаць з балюча-прарэзлівым крыкам:

— Ой, боля-боля! Папа, папа, боля-боля!

Напярэймы малой пачуўшы ўстрывожаны родны галасок, ляцеў прыгожы малады чалавек у лётнай форме:

— Што з табой, Алёначка? Што? — і клапатліва, з любоўю падхапіў дачушку на рукі.

Малая ўсім цельцам прыгарнулася да бацькі і горкагорка зарыдала:

— Боля-боля! Мама біла-біла! Па спінцы біла-біла!

І паказала ручкамі, як яе білі. Буйныя слёзы сыпаліся з яе вочак, тварык расчырванеўся, распух ад крыўды, несправядлівасці і болю.

— Далонькай, мусіць, пляснула па спінцы — не слухаеш маму… — кінуў бацька.

Алёнка ж яшчэ больш залілася плачам, настойліва паўтараючы:

— Біля-біля! Боля-боля! — і выразна яшчэ раз паказала татачку на сваю спінку.

— Ну, супакойся, мая харошая, супакойся. — Тата гладзіў і гладзіў сваю дзетачку па спінцы, прыгаворваючы:

— Усё будзе добра, Алёначка, усё будзе добра, мая мілая.

А маленькая як не чула супакаення, горка паўтарала адно і тое ж:

— Біля-біля, боля-боля!

Вакол іх пачалі збірацца чужыя мамы. Нехта працягваў Алёнцы банан, нехта — цукерку. Толькі той, якую называў мамай сваёй дачушкі лётчык, не было.

Мая ж маці ва ўсе вочы глядзела на бацьку малой. Яна быццам прырасла да зямлі, спапяляючы сваім паглядам лётчыка, быццам выпрабоўвала яго характар, яго адпаведнасць на бацькоўскае званне. Так, яе цікавіў толькі ён. У яе пагялдзе я чытала: «Бацька! Калі ты бацька, зразумей, з кім жывеш. Гэта — не мама тваёй крывінцы, не мама! Мама яна толькі свайму дзіцяці, во глянь», — і яна павярнулася, каб знайсці іх вачыма — і сапраўды, мы ўбачылі, як тая, што біла Алёнку, абняўшы ўласную дачку, хуценька прабегла да выхаду — міма нас. Дзяўчынка, убачыўшы іх, спуджана прытулілася да свайго татачкі, зноў заплакала:

— Боля-боля!

Моўчкі мы выйшлі з крамы. Моўчкі назіралі, як бацька спрабаваў пасадзіць малую ў каляску, ды тая не схацела спусціцца туды з яго цёплых абаронччых рук. Алёнка нібыта баялася трапіць зноў у чужыя рукі. Хоць тая, якую змусіў яе называць мамай, была ўжо ад іх далёка, дзяўчынка ўсё яшчэ баялася страціць роднае цяпло. І ён, усё, мабыць, зразумеўшы, адной рукою каціў каляску, другою нёс Алёнку. А мы ўсё глядзелі ім услед, молячы Божачку паспрыяць ім на нялёгкай дарозе жыцця. Усёй душою мы адчувалі, што нешта трагічнае абрынулася на гэтую сям’ю, але трэба было выжыць і ўзгадаваць малую…

Нечакана бацька спыніўся і павярнуў назад. Ён глядзеў на нас! Нават спінаю адчуў нашу трывогу за яго, за лёс ягонай дачушкі. Для яго, мабыць, таксама стала вялікім узрушэннем сустрэча з намі. Ён ішоў назад, на нашы ўсхваляваныя нямыя пагляды. І мы яго чакалі, таксама з нейкім незразумелым узрушэннем. Дзяўчынка моцна ашчаперыла свайго татачку за шыю. Параўняўшыся з намі, мужчына заплакаў, не хаваючы гора і здзіўлення:

— Як жа вы адчулі, што тая — не мама? Мама наша памерла…

— А тут не трэба слоў… — адно толькі ўздыхнула мая сівая хворая матулечка. І я раптам адчула свае далёкія дзіцячыя слёзы. Яны ажылі ўва мне, вярнуліся ў мяне, быццам з далёкага сну, але так ясна, што зноў напоўнілі вочы. І жудасць увайшла ў маё цела, і холадам, марозам задыхала ўсё наваколле. Я пачула сябе малую, сваю скаргу маме:

— Папа дельжаль, а цёця калола. Боля-боля, боля-боля! А потом они клали подушку на мою головку, боля-боля, боля-боля! Кутялявая тётя клала, а папа дельжаль… Білі-білі, боля-боля…

Я й па сёння не магу глядзець на кучаравых «цёць». І кожная дзіцячая слязінка пераварочвае мне душу, апякае, прапальвае яе наскрозь. Я плачу, калі плачуць дзеці. Я вельмі пакутую, калі бачу іхнія пакуты. І немагчыма скінуць гэта з сябе...

А лётчык тым часам павярнуўся да мяне, пранізліва ўглядзеўся ў маю раннюю жыццёвую стому і здарожанасць. І я, нібы здаля, пачула:

— А вы таксама нешта перажылі… У вас таксама дужа горкая душа…

Я маўчала. Я глядзела на яго дзяўчынку, нібыта на сябе, малую. Гэта была сустрэча з самою сабой, сустрэча з горам, з бядой, са слязьмі, якіх ніколі не выцерці, колькі ні выцірай.

І дзіўна мне было чуць голас лётчыка, які раптам прашаптаў:

— А вы б пайшлі за мяне замуж?

Мусіць, я плакала, усёй душой, усім сэрцам абдымаючы яго дзіцятка. І на нас пазірала само неба, на якім узышлі першыя марозныя зоркі. Быў снежань, было шмат снегу… Чамусьці я адчула пах дзіцячай навагодняй ёлачкі… І ад нас уцякала мая, здавалася, далёкая кучаравая крыўдзіцелька. Здавалася, што я яе нарэшце знайшла… Мама не знайшла, а мне ўдалося…



# Жанчына-маці: стагоддзе таму

Адзін з самых папулярных жаночых вобразаў беларускай літаратуры — гэта вобраз «кінутай маці», якая самотна жыве ў старой вясковай хаце і згадвае альбо забітага на вайне сына, альбо дзяцей, якія паспяхова ўладкаваліся ў далёкім горадзе. «Гарадскі» сын таксама думае пра маці з клопатам і любасцю... Зрэшты, так было не заўсёды. У беларускай прозе нашаніўскага перыяду стасункі між бацькамі і дзецьмі рэдка азначаюцца вялікай чуласцю, а ў паслярэвалюцыйны час на першы план выходзіць канфлікт пакаленняў: перадавая савецкая моладзь супраць забабонных, «адсталых» бацькоў. Розніца ў выяўленні дачыненняў між бацькамі і дзецьмі тлумачыцца і значнымі сацыяльнымі зменамі ў сферы сям'і, што неабходна ўлічваць пры чытанні і выкладанні класікі.

## У патрыярхальнай сям'і

У традыцыйнай вясковай культуры «рэальнасць не заўсёды адпавядала ўстойлівым стэрэатыпам мацярынства, што складалі ў савецкай і постсавецкай усходнеславянскай прасторы ідэалізаваны вобраз маці і яе дачыненняў з дзецьмі». Як зазначае ўкраінская даследчыца Алена Кісь, «час, які выдаткоўваўся жанчынай для непасрэднага кантакту з дзіцем, быў параўнальна невялікі. Шмат часу паглыналі іншыя сямейныя абавязкі, у першую чаргу — гаспадарча-вытворчыя. Асноўную выхаваўчую функцыю прымалі на сябе бабулі, старэйшыя сёстры і вуліца».

Пры разглядзе вобраза маці ў беларускай прозе першай трэці ХХ ст. неабходна ўлічваць, што ў гэты перыяд класічная патрыярхальная сям'я пачала саступаць месца дзетацэнтрычнай сям'і, якую характарызуе ўзвышэнне прыватнага жыцця, інтымнасці, каштоўнасці дзяцей. У дзетацэнтрычнай сям'і дарослыя надаюць вялікую значнасць дабрабыту дзяцей, імкнуцца стварыць спрыяльныя ўмовы для іх рознабаковага развіцця, больш уважлівыя да індывідуальных асаблівасцей.

У патрыярхальнай вясковай сям'і «устойлівая традыцыя аўтарытарнасці ўлады бацькі праяўлялася ва ўзаемаадносінах як мужа і жонкі, так і бацькоў з дзецьмі, а таксама абумоўлівала асаблівасці нацыянальнага стылю выхавання ў беларусаў». Дзеці падпарадкоўваліся бацькам, прычым бацькі ставіліся да іх дастаткова стрымана і патрабавальна. Як адзначае расійскі сацыёлаг Сяргей Гаўроў, «той, хто працаваў на карысць сям'і, меў павагу і пашану, а той, хто па пэўных прычынах не працаваў, разглядаўся на перыферыі сям'і. <...> Земскіх статыстыкаў часам раздражняла: як гэта гаспадар шматдзетнай сям'і здольны нагул не прыгадаць пра маленькае дзіця, затое дакладна ведае, колькі ў яго кароў і парсюкоў».

У сялянскай сям'і выхаваннем сыноў звычайна займаўся бацька, а дочкі раслі разам з маці. Дзяўчынкі і хлопчыкі займаліся рознымі гаспадарчымі справамі, і чым старэйшым быў хлопчык, тым менш часу праводзіў з маці і сёстрамі. Гэта знайшло адметнае адлюстраванне ў беларускай літаратуры: хлопчыкі з'яўляліся героямі мастацкіх твораў значна часцей, чым дзяўчынкі. Так, у паэме Якуба Коласа «Новая зямля» дачушкі Міхала і Ганны з'яўляюцца фонавымі персанажамі толькі ў некалькіх эпізодах паэмы.

Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, бадай, найчасцей сутыкаліся з дачыненнямі паміж бацькамі і дзецьмі ў патрыярхальных сем'ях, што адбілася на створаных імі вобразах маці. У беларускай прозе першай трэці ХХ ст. жанчына-маці рэдка выяўляецца як пяшчотная і чулая. Часцей яна занятая працай, заклапочаная жыццёвымі праблемамі, карэктуе паводзіны дзяцей, выконвае функцыю «вышэйшага дысцыплінатара» — як у апавяданнях З. Бядулі «Пяць лыжак заціркі» і «Велікодныя яйкі», М. Гарэцкага «Зіма», Я. Коласа «Драматург і лірычны паэт».

## Добрая (= адсутная) маці

Сёння асаблівая псіхаэмацыянальная еднасць характарызуе дачыненні між маці і маленькім дзіцем, калі з боку жанчыны найбольш неабходна клапатлівае, цярплівае, уважлівае стаўленне да малечы. Але беларуская проза першай трэці ХХ стагоддзя не выяўляе вялікай заміlabeled ванасці жанчыны дзіцем. Нараджэнне дзіцяці — значная падзея для сям'і, але нават у хрэсьбінных песнях часам чуецца жаночае засмучэнне. Так, на пытанне мужа «Дзе ты ўсю красу сваю дзела?» жонка адказвае:

*Ой, муж мой маладзенькі,*
*Калі сам не знаеш, не ведаеш,*
*То ў добрых людзей папытайся:*
*Як табе сыночка радзіла —*
*Усю сваю красу я згубіла.*

Цяжкае становішча вясковай жанчыны, адлюстраванае ў фальклоры, супярэчыць ідэалізаванаму ўяўленню некаторых сучасных сацыёлагаў пра патрыярхальную шматдзетную сям'ю.

Любоў між маці і дзіцем (і наадварот) робіцца больш выразнай пры набліжэнні вечнага расстання — альбо калі тое ўжо адбылося. Характэрныя ў гэтым сэнсе робяцца апавяданні Цёткі «Міхаська» і Ядвігіна Ш. «Гаротная». Жанчына, якая памірае пры нараджэнні сына, — вобраз высокі і ўзнёслы:

— Божа, які ж брыдкі! Хаця б шчаслівы быў, — зашаптала бедная кабета, хацела



*Малюнак Алесі Ісы*

пацалаваць дзіця, адкрыла вусны, але не стала сілы… заціхла… Заціхла так, як песня часм ціхне на найжаласнейшым сваім слове». Сірата — гэта заўсёды чалавек, якому не пашанцавала, які абдзелены клопатам і любоўю. У беларускай літаратуры першай трэці ХХ ст. стаўленне да сіраты супадае з традыцыйна-фальклорным, невыпадкова Міхаська распавядае жораву пра сваё цяжкае жыццё амаль словамі народнай песні: «я таксама адзін, як той калочак у плоце, матулька ў пясочку ляжыць, не прыйдзе сынка хворанькага адведаць».

Разам з тым, як заўважае даследчыца казак і міфаў Кларыса Эстэс, «заўсёды пільная, празмерна клапатлівая маці-квахтуха не пасуе на ролю галоўнага спадарожніка ў будучае жыццё (надта добрая маці хутка памірае). Добрая маці перашкаджае герою «ўзяць на сябе адказнасць за самастойнае жыццё, развіваць усведамленне ў дачыненні да небяспекі, інтрыгі, палітыкі». Смерць маці — не толькі трагічны эпізод, але і падзея, неабходная для далейшага развіцця сюжэта, абавязковая ўмова, пры якой герой можа дзейнічаць самастойна, сутыкнуцца са складанасцямі жыцця. Калі крыху перай-

> *У беларускай прозе першай трэці ХХ ст. жанчына-маці рэдка выяўляецца як пяшчотная і чулая. Часцей яна занятая працай, заклапочаная жыццёвымі праблемамі, карэктуе паводзіны дзяцей, выконвае функцыю «вышэйшага дысцыплінатара».*

начыць выказванне К. Эстэс, «са смерцю надта добрай маці нараджаецца герой». «Добрая маці» паралізуе героя, таму ў сістэме персанажаў больш частотная сюжэтная функцыя вобраза — «маці-перашкода».

## Маці-перашкода

Паводле гендарных стэрэатыпаў, паламаркіраваныя рысы мужчыны, звязаныя з дзейнасцю і актыўнасцю, — гэта прадпрымальнасць, упэўненасць, вынаходлівасць. Жанчынам уласцівы канфармізм, клопат аб захаванні нормаў. Гэта супрацьпастаўленне знаходзіць падтрымку ў беларускай прозе першай трэці ХХ ст. Жанчына паўстае як кансерватар, захавальніца сацыяльных норм традыцыйнага грамадства. Яна рэдка падтрымлівае новае і нязвыклае і, наадварот, часта катэгарычна сцвярджае сваю пазіцыю, звычайна прасталінейную і аднабаковую, не ўлічвае новыя сацыяльныя абставіны, не спрабуе паставіць сябе на месца дзіцяці.

Інертнасць мыслення, няздольнасць уявіць сітуацыю, адрозную ад вядомага, поўная ўпэўненасць ва ўласным праве вырашаць лёс дзіцяці найбольш ярка выяўлена ў навеле З. Бядулі «Ашчаслівіла». У жабрачкі нараджаецца здаровая дзяўчынка, і Магдуля пачынае галасіць, што дзіцяці будзе цяжка ў свеце, бо яно не зможа жабраваць. Жанчына наважваецца асляпіць дачку, бо не хоча, каб малая расла здаровай. Сляпы муж Магдулі цудоўна ўяўляе, як «дачушка яго некалі будзе вадзіць па людзях і лагодненька!», але не думае, «што яна будзе рабіць пасля яго смерці».

У апавяданні З. Бядулі «Велікодныя яйкі» маці васьмігадовага Сцяпана таксама не можа ўявіць сабе будучыню сына, адрозную ад тыповай сялянскай: «… калі будзеш займацца цацкамі, дык не дарасцеш да вялікага чалавека і не будзеш гаспадаром». Мікіціха любіць сына, клапоціцца пра гаспадарку, але не здольная зразумець адметнасць Сцяпана, паверыць у яго здольнасці. «Проза жыцця з паэзіяй не можа ўжыцца разам у гаротнай сялянскай хатцы,» — падкрэслівае пісьменнік і робіць увасабленнем практычнасці, жыццёвай прыземленасці менавіта жанчыну.

## Адвечны абавязак

У многіх творах беларускай прозы першай трэці ХХ ст. выяўляюцца стасункі паміж бацькамі і ўжо дарослымі дзецьмі — часцей пры абмеркаванні будучага шлюбу, пэўных учынкаў альбо жыццёвых установак. Такія размовы ператвараюцца ў спрэчкі, але зняважлівае стаўленне да бацькоў ацэньваецца як непажаданае. Асаблівая чуласць і пяшчота ў дачыненнях між маці і дарослымі дзецьмі выяўлялася не так часта. Прыкметнае выключэнне — раман Цішкі Гартнага «Сокі цаліны», дзе неадночы падкрэсліваецца вялікая любоў Стэпы да сына-камуніста. Матчына любоў павінна падкрэсліць гераічнасць рэвалюцыйнай барацьбы Рыгора, які пакідае вёску дзеля горада, — але з боку суседзяў, якія шкадуюць бедную сялянку-ўдаву, гучаць больш традыцыйныя ацэнкі. Як і Лаўрэнцій Кіпрыяновіч у апавяданні З. Бядулі «На Каляды к сыну», Рыгор парушае адвечны абавязак клапаціцца пра старых бацькоў, але мае выдатнае алібі.

У апавяданні З. Бядулі «Маці», напісаным ужо ў савецкі час, галоўны герой — удзельнік рэвалюцыі, салдат Чырвонай арміі — таксама на некалькі гадоў пакідае маці, а ў час бою ў роднай вёсцы, нават не затрымліваецца ў сваёй хаце. Здольнасць героя ахвяраваць любоўю да маці сведчыць пра адданасць рэвалюцыйным ідэям і ўхваляецца пісьменнікам савецкай краіны.

Вобраз маці часта з'яўляецца сімвалічным: маці — увасабленне вёскі, шырэй — сялянскай Беларусі. Калі літаратурны герой — «беларускі мужыцкі сын», ён звычайна ўсведамляе абавязак быць верным сваёй сацыяльнай і нацыянальнай прыналежнасці. Цяжкія роздумы пісьменнікаў і іх герояў пра пакінутую вёску і самотных бацькоў былі блізкія многім беларускім чытачам.

## Прыгажосць мадонны

У аповесці М. Гарэцкага «Ціхая плынь» дзеці падкрэслена адмежаваныя ад бацькоў: яны гуляюцца пад доглядам дзеда, «што нічога не варты ў касе, ні нават з граблямі», а зусім маленькі Хомка плача адзін у зачыненай хаце, бо «маці зачыніла яго, не маючы большых дзетак-нянек, і сышла на дзень-год у поле жаць авёс, сышла і не ідзе пакарміць яго і абцерці носік...».

Яшчэ ў маленстве вясковая дзяўчынка вучылася клопату пра малодшых дзяцей, адчувала за іх адказнасць, што знайшло адлюстраванне ў сюжэтах народных казак. Сярод беларускіх пісьменнікаў адным з першых, хто звярнуў увагу на адметнасць жаночага вобразу ў казцы быў Максім Багдановіч (эцюд «Мадонна»). Васьмігадовая нянька з немаўляткам на руках выклікае ў апавядальніка роздумы пра «народных мадонн». Клопат пра малодшага брата, «чыста матчын выраз» на твары дзяўчынкі пакідае моцнае ўражанне: «Вышэйшая прыгажосць у яе была; толькі потым, стоячы перад дрэздэнскімі Мадоннамі <...> зразумеў я, што бачыў менавіта тую прыгажосць, якую мастакі імкнуліся адлюстраваць у гэтых карцінах».

Ад духоўнай прыгажосці дзяўчынкі-маці аўтар звяртаецца да тыпу «добрай рускай дзяўчыны», увасобленага ў казцы пра брата Іванку і сястру Алёнку. «Тут народ свае назіранні над жыццём выявіў і, на гэтых вось нянек-недалеткаў уважлівым позіркам зірнуўшы, стварыў вобраз дзяўчынкі з матчынымі пачуццямі <...> Цвёрда кажу, што тып гэты варта вышэй нават за шэкспіраўскія тыпы паставіць. Ёсць у Шэкспіра Афелія, напрыклад, і спрэчкі няма, выдатная яна, але наколькі больш дробны яе вобраз у параўнанні з Алёнкай нашай».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Да паэзіі — праз пародыю

**Калі ў праграме літаратурнага вечара пазначана імя Анатоля Зэкава, заўжды знойдуцца аматары паэтычнага слова, якія прыйдуць паслухаць менавіта яго. І нядзіўна: выступленні паэта, як правіла, да кожнай дэталі прадуманыя, заўсёды дасціпныя і вясёлыя. Яшчэ большую папулярнасць пісьменнік набыў пасля таго, як разам з Навумам Гальпяровічам пачаў весці на тэлеканале «Беларусь 3» штотыднёвую літаратурную праграму «Дыя@блог. P.S.».**

Тэлегледачы цікавяцца, ці можна дзе набыць кнігу пародый Анатоля Зэкава. Паведамляем: на пачатку года ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае» няхай і невялікім тыражом, але з'явілася такая кніга. Называецца яна «Тары-бары» (гэта пяты зборнік літаратурных пародый гумарыста; да яго былі «Дуэль», «Дуэль-2», «Кругі ў галаве» і «Каханне на снезе»).

*Пародыя А. Зэкава — гэта своеасаблівая і часам нашмат больш эфектыўная, чым рэцэнзія, рэклама творчасці паэта*

У новай кнізе пад прыцэл парадыста (дарэчы, А. Зэкаў зрэдку выступае ў друку пад псеўданімам Антон Прыцэл) трапіла звыш сотні сучасных беларускіх паэтаў розных пакаленняў: сярод старэйшых — М. Аўрамчык, А. Вярцінскі, Р. Баравікова, Д. Бічэль-Загнетава, К. Камейша, М. Маляўка, У. Паўлаў, У. Скарынкін, Н. Галіноўская, Я. Каршукоў, У. Карызна, М. Чарняўскі, сярод самых маладых — Г. Новік, А. Рогач, І. Чарняўская і А. Ярашонак.

А. Зэкаў парушыў прынцып, якім карыстаўся пры складанні папярэдніх кніг: на аднаго паэта — адна пародыя. І апраўданнем гэтаму "парушэнню" можа служыць тое, што ў новым зборніку пародыі размеркаваныя па трох раздзелах: «Маштабы кахання», «Да лямпы!», «Ходзяць рыфмы...». Найбольш «пашанцавала» В. Гардзею і К. Камейшу, якія патрапілі пад усе тры намінацыі.

Найбольшую ўвагу Анатоль Зэкаў надае інтымнай тэматыцы: хіба ёсць у нашай літаратуры такі паэт, які б не адзначыўся хоць адным вершам пра каханне? Калі ты, як В. Дэбіш, «Адзін у ложку» і ў цябе, як у Г. Каржанеўскай, «Бяссонніца без кропкі», тым не менш можна сасніць «Абутковы сон» з С. Шах, паслухаць «Трызненне на сон» М. Віча і прызначыць «Спатканне ў сне» з В. Гардзеем, навастрыць «Слых на ліфт» з В. Русілкай і прагуляцца «У пошуках прынца» з




Т. Сівец, правесці «Агледзіны» з А. Бадаком, знайсці «Сляды» Р. Баравіковай і паназіраць «За даўганогай незнаёмкай» з М. Аўрамчыкам... Менш пародый увайшло ў другі раздзел (на вершы В. Зуёнка, Г. Булыкі, А. Вярцінскага, В. Гардзея ды іншых). Завяршаюць зборнік пародыі на літаратурныя тэмы.

Як жа «працуюць» пародыі А. Зэкава? Вось, напрыклад, радкі маладой гомельскай паэткі Ганны: «На тэлефон прыйшло натхненне // Адной з мільёну смс».

Адштурхоўваючыся ад іх, у пародыі «SMS-раман» А. Зэкаў працягвае абазначаную паэткай тэму:

*Наўрад ці стала б паэтэсай*
*І напісала б гэты верш,*
*Калі б не тыя эсэмэскі,*
*Што ты мільёнамі мне шлеш.*
*Іх я чакаю з нецярпеннем,*
*Каб не спыняць вершапрацэс,*
*Бо чэрпаю заўжды натхненне*
*З тваіх штодзённых SMS.*
*Дык шлі іх, шлі пабольш, каханы,*
*І не крыўдуй зусім, прашу:*
*Не выйшла ў нас з табой рамана,*
*Дык свой раман хоць напішу.*

Радкі Г. Новік сталі адпраўным пунктам для фантазіі парадыста, выліліся ў самастойны твор са сваёй завязкай і развязкай. Падобны прыём А. Зэкаў пераважна выкарыстоўвае і ў іншых сваіх пародыях, бо гэты жанр для яго не столькі парадзіраванне, колькі магчымасць выказаць самому на пэўную тэму, часам толькі злёгку абазначаную паэтам. Невыпадкова ён ці то жартам, ці то ўсур'ёз яшчэ ў першай кнізе «Дуэль» патлумачыў свой зварот да пародыі аўтаэпіграмай: «Са мною справа ясная —/Пара даўно намыліць шыю: /Як не выходзяць вершы ўласныя —/Я парадзірую чужыя».

Скажам шчыра: робіць гэта А. Зэкаў філігранна, часам на грані фола, але, тым не менш, не зневажаючы паэта і не пераступаючы мяжы прыстойнасці. Ён ніколі не ўзвышае сябе над аўтарам першакрыніцы, не становіцца ў позу напышлівага ментара-павучальніка, хутчэй — нароўні з аўтарам вершаваных радкоў, узятых у якасці аб'екта для пародыі, суперажывае таму ці іншаму дзеянню лірычнага героя і па-свойму арыгінальна, даводзячы абазначаную тэму да камізму, а часам і да абсурду, прымушае чытача не толькі ўсміхнуцца, але і адчуць смак беларускага слова.

*У новай кнізе пад прыцэл парадыста трапіла звыш сотні сучасных беларускіх паэтаў розных пакаленняў: сярод старэйшых — М. Аўрамчык, А. Вярцінскі, Р. Баравікова, сярод самых маладых — Г. Новік, А. Рогач, І.Чарняўская.*

Пародыя А. Зэкава — гэта своеасаблівая і часам нашмат больш эфектыўная, чым рэцэнзія, рэклама творчасці паэта і нацыянальнай літаратуры ў цэлым. Невыпадкова пасля той ці іншай «зэкаўскай» пародыі і сама лавіла сябе на тым, што вока міжволі выглядае на кніжнай паліцы паэтычны томік з адпаведным прозвішчам. Напрыклад, маё вяртанне (праз гады!) да інтымнай лірыкі Раісы Баравіковай (шкада, што яна, паспяхова пераключыўшыся на дзіцячую літаратуру, адышла ад паэзіі) быў выкліканы менавіта пародыяй са зборніка «Тары-бары».

Так што Анатолю Зэкаву можна толькі падзякаваць за плённую прапаганду нашай літаратуры, няхай сабе і праз пародыю. Але хто ведае, можа, якраз яна і з'яўляецца самым дзейсным сродкам? Калі так, вясёлая кніга «Тары-бары» мае місію даволі сур'ёзную.

**Наталля СІДАРЭНКА**

# Туга і рамантыка

**Кажуць, што паэзія лепш пішацца ў маладосці, і толькі ў больш сталым узросце чалавек вырастае да прозы. Наш аўтар — Аксана Ярашонак-Камінская — стаіць на мяжы маладосці і сталасці, таму яе першы зборнік «Звычайнае шчасце» атрымаўся празаічна-лірычным. Трымаеш у руках невялікую кніжку, учытваешся ў кожны верш: першы — як песня, другі — філасофскі роздум...**

Спачатку цяжка знайсці суцэльную тэматычную лінію, бо пра што толькі ні піша аўтарка: творчасць, і каханне, і сям'я, і роздумы пра надзённае... Адзіная падказка — назва самога зборніка «Звычайнае шчасце», бо ўсё: і каханне, і сям'я, і творчасць — з'яўляюцца складнікамі шчасця. Аксана Ярашонак-Камінская падказала нам, у чым яго можна бачыць.

Большую частку зборніка складае інтымная лірыка.

*Рукі, усмешка, вусны,*
*Позірку цеплыня.*
*Дотык, такі спакусны.*
*Вось ён — пачатак дня.*
*Вечарам, ночку, ранкам*
*Побач са мною ты.*
*Лёсу скажу я дзякуй.*
*Хай будзе так заўжды.*

Каханне ў аўтаркі паказана з лёгкім сумам, часам нават драматызмам, але вельмі тонка і прыгожа. Спачатку можа падацца, што вершы аўтарка адрасуе мужчыне, якога вельмі кахае або кахала, але перспектыву у іх адносінах не прабачылася. Аднак кропкі над «і» паставілі наступныя радкі:

*Падарункі верасень разносіць:*
*Розум людзям, прахалоду рэчкам.*
*Ну а мне, уявіце, гэта восень*
*Проста падарыла... чалавечка.*

Дзеці, сям'я — просты сакрэт жаночага шчасця. Ніякіх глыбокіх перажыванняў на глебе няшчаснага кахання — толькі каханне шчаслівае, якое натхняе на добрыя радкі. А яны, у сваю чаргу, абнадзейваюць чытача.

Пакінем каханне рамантыкам, разгледзім філасофію. Аўтарка пакуль не імкнецца шукаць адказ на пытанне «ў чым сэнс жыцця?», але пэўны роздум у некаторых вершах усё ж прасочваецца. Такім творам зазвычай спадарожнічае эпіграф. Аксана Ярашонак-Камінская выкарыстоўвае яго не толькі як своеасаблівы «аксесуар» да верша, але інтэрпрэтуе словы вядомых класікаў. Эпіграф і ўласна верш зліваюцца ў адно, робіцца ўзаемадапаўняльнымі. Толькі настрой у такіх вершаў сумны:




Душа грустит о небесах... (С. Есенин)

*Зноў прыгадала: вышыня,*
*Прастор, блакіт і толькі я.*
*І аж да ранішняй пары*
*Святло тут месяц мне дарыў.*
*І зоркі клікалі на баль...*
*Ды гэта толькі сон. На жаль.*

Менавіта ў такіх вершах прасочваецца сталасць паэта. Няма ўласцівай маладосці эмацыянальнасці, ёсць жаданне пераасэнсаваць жыццё, разабрацца ў сабе, таму, напэўна, вершы і носяць крыху песімістычную танальнасць і асноўнай становіцца тэма адзіноты.

Тут варта згадаць пра пейзажную лірыку.

*Ноч аздобіць горада аблічча,*
*Ноч запаліць поўню і неон,*
*Нам прыгод падкіне рамантычных,*
*А дзятве падорыць*
*добры сон.*

Неблагая паэтызацыя простай ночы. І рамантыка, і спакой, і прыгажосць — аўтар задаволіла розныя густы.

Аднак прырода выконвае не толькі эстэтычную функцыю. На яе фоне нараджаюцца і роздумы. Можна прасачыць нейкі сум, але нельга лічыць Аксану Ярашонак-Камінскую песімістычным паэтам. Яе вершы ўяўляюць гармонію аптымізму і песімізму, што надае рэалістычнасць творчасці.

Варта заўважыць адну асаблівасць — у зборніку ў асноўным вершы невялікага памеру. Творчы крызіс? Не, хутчэй невялікі аскепак чагосьці вялікага — успаміну, роздуму, мары. Таму і прачытваецца зборнік лёгка, пасля чаго хочацца разважаць, думаць, натхніцца, чакаць чагосьці светлага і цёплага.

Можна лічыць, што дэбют атрымаўся.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

# Выйсці за межы: суцінскія цуды

**Простага хлопца, які нарадзіўся ў беларускай глыбінцы больш чым стагоддзе таму, добра ведаюць у Францыі. Гэта сусветна любімы мастак Хаім Суцін, чые карціны адны з самых дарагіх у свеце і нязменна выклікаюць захапленне аматараў мастацтва. У Беларусі пра яго, як ні дзіўна, да нядаўняга часу мала хто ведаў, лічылі рускім. Сёння творчасць Хаіма Суціна нарэшце вяртаецца на радзіму. Тры дні запар прысвяцілі яму даследчыкі, мастацтвазнаўцы, дыпламаты, гісторыкі, паэты, выдаўцы і калекцыянеры — таямнічая асоба Суціна выклікала цэлую хвалю дыскусій падчас І Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Суцінскія чытанні», якая прайшла ў канцы красавіка ў Мінску і Смілавічах.**



*Даследчыкі творчасці Суціна падчас дыскусіі.*

## ВЫРАТАВАННЕ ЕЎРОПЫ

У чым прычына цікавасці да Суціна на Беларусі? На гэтае пытанне пастараўся адказаць арт-кансультант і калекцыянер Уладзімір Шчасны. «Прыналежнасць сусветна вядомага мастака да культуры нашай краіны не падлягае сумневу. І мы, нарэшце, пачалі гэтым ганарыцца. Прыходзіць разуменне неаддзельнасці беларускага мастацтва ад агульнасусветнага развіцця культуры», — паведаміў арт-кансультант.

На думку многіх мастацтвазнаўцаў, і Уладзіміра Шчаснага ў тым ліку, Шагал, Суцін, Царфін і іншыя мастакі Парыжскай школы з Беларусі разам з экспрэсіяністамі іншых краін выратавалі еўрапейскае мастацтва ад трывіяльнасці і руціннага акадэмізму.

«Марк Шагал — самы вядомы французам прадстаўнік Парыжскай школы. Але былі і іншыя, як Суцін і Царфін, якія зрабілі вялікі ўклад у сучаснае еўрапейскае і сусветнае мастацтва. Мастацкія сувязі Беларусі і Францыі звязаны не толькі з творчасцю Марка Шагала, але і са шматлікімі імёнамі іншых мастакоў. І такія канферэнцыі дапамагаюць зразумець, што нашы краіны маюць больш багатую агульную культурную спадчыну, чым мы прызвычаіліся думаць», — адзначыла на канферэнцыі першы сакратар Пасольства Францыі ў Беларусі Эльза Піньоль, працягваючы думку Уладзіміра Шчаснага.

## ВАКЦЫНА АД МІФАЎ

Карціны Суціна — погляд сур'ёзнай і складанай асобы. У працах адчуваюцца матывы на мяжы суіцыду. Разбуральная сіла і стваральная. Як гэта можа спалучацца? Дырэктар Парыжскай Пінакатэкі, гісторык мастацтва Марк Рэстэліні, які арганізаваў у Парыжы выстаўку «Смілавіцкі вар'ят», упэўнены, што «шаленства ў творчасці Суціна можна параўнаць з настроем героя Дастаеўскага».

Выступоўца развеяў многія міфы, звязаныя з Суціным. «Галоўная праблема даследчыкаў у тым, што людзі, якія ведалі Суціна, дадавалі шмат асабістага ў яго апісанне. Асабліва жанчыны», — лічыць спадар Рэстэліні.

Звярнуўшыся да псіхалогіі мастака, ён падкрэсліў, што «здольнасць адчуваць глыбока — рыса, якая адрознівае не толькі Суціна, але і ўсю кагорту творцаў Парыжскай школы». У гэтым таксама выяўляецца падабенства Суціна з Мадзільяні. Яны прадстаўлялі ўнутраны вобраз, а не капіравалі знешнія рысы.

«Упэўнены, што іудаізм не іграе вялікай ролі ў творчасці Суціна. Больш за тое, антыяўрэйскія павевы часу, у якім жыў мастак, даюць падставу думаць, што ён пазбягаў свайго паходжання. Таму ўсё, што мы бачым на карцінах Суціна, — гэта спасылкі да еўрапейскага мастацтва. Нацюрморты з дзічынай, напрыклад, прадстаўляюцца як уплыў Рэмбранта, а пейзажы — вынік уражання ад работ Каро», — канстатаваў даследчык.

## УБАЧЫЦЬ СУТНАСЦЬ

«Многія знаёмыя Суціна, казалі, што галоўнай рысай яго характару была жахлівая нясмеласць. Ён мала распавядаў пра сябе, таму галоўную інфармацыю пра мастака трэба шукаць у яго карцінах», — адзначыла дырэктар Мастацкага музея імя Поля Валеры, арганізатар першай буйной выстаўкі Суціна ў Францыі, мастацтвазнаўца Маітэ Валес-Блэд.

Паводле яе слоў, Суцін працаваў у межах традыцыйнай трыяды: партрэт, пейзаж, нацюрморт. Але ён не быў прыхільнікам рэалізму, імкнуўся выйсці за межы традыцыйнасці, зрэшты, як і не заганяў сябе ў межы модных кірункаў, напрыклад, сюррэалізму або футурызму. Разам з тым яго карціны адрозніваюцца дзіўнай экспрэсіяй, у іх ярка выяўляецца рух і пошук сэнсу жыцця.




*Цікавы даклад!*

*Фота Яўгена Колчава*

«Суцін часта вяртаўся да адных і тых жа сюжэтаў, каб даследаваць усе магчымасці матэрыялу, колеру, формы. У кожным творы ён бачыў унутраную сілу, схопліваў праўдзівы характар рэчаў і з'яў. Затое на яго карцінах прысутнічае мноства вонкавых скажэнняў», — дадала Маітэ Валес-Блэд.

Мастацтвазнаўца звярнула ўвагу на тое, што карцінам Суціна была характэрна дваістасць, у тым ліку проціпастаўленне колераў. Напрыклад, белага і чырвонага. Дарэчы, белы ніколі не быў у яго адназначным, а заўсёды з мноствам адценняў. Суціна па праве лічаць майстрам накладання аб'ёмнага мазка.

«Ён адлюстроўваў сябе на кожнай карціне — выказваў свой унутраны свет. Стараўся ўбачыць у натуршчыкаў, простых людзей з вуліцы, іх сутнасць, зняць маскі з людзей. У жывапісе Суціна мы бачым пільнае стаўленне да дэталяў і разам з тым увагу да абстракцый», — падкрэсліла Маітэ Валес-Блэд.

> *«Суцін працаваў у межах традыцыйнай трыяды: партрэт, пейзаж, нацюрморт. Але ён не быў прыхільнікам рэалізму, імкнуўся выйсці за межы традыцыйнасці, зрэшты, як і не заганяў сябе ў межы модных кірункаў, напрыклад, сюррэалізму або футурызму. Разам з тым яго карціны адрозніваюцца дзіўнай экспрэсіяй, у іх ярка выяўляецца рух і пошук сэнсу жыцця.*

## ПРАЎДА ПРАЗ АБ'ЕКТЫЎ

Аналіз фотадакументаў, звязаных з Суціным, прадставіў падчас канферэнцыі Мішэль Лебрэн-Франзаралі, мастак і паэт, які прысвяціў творцу дзве кнігі, доўгі час займаўся даследаваннем яго жыцця. Фотаздымкі, пра якія распавёў спадар Лебрэн-Франзаралі, адносяцца да перыяду сярэдзіны 1920-х гадоў, калі мастак знаходзіўся ў Францыі. На адным з іх Суцін катаецца на лодках з сябрамі, у тым ліку Леапольдам Збароўскім, гандляром яго карцінамі.

«Дакумент аб найманні жылога памяшкання пацвярджае, што дом Суціна быў у французскай камуне Ле-Блан. Можна ўбачыць яго фатаграфію — прыгожае памяшканне з грунтоўнай майстэрняй, стайняй, шыкоўным садам», — канстатаваў Мішэль Лебрэн-Франзаралі.

Даследчык патлумачыў і канцэпцыю нацюрмортаў Суціна з выявамі мёртвай дзічыны, падвешаных індычак і курыц, рыбы, якая ляжыць на прылаўках рынку, туш быкоў. Па яго словах, гэта не жорсткасць мастака, а, наадварот, нежаданне згаджацца са смерцю, імкненне знайсці рэцэпт вечнага жыцця.

## ГУЛЬНЯ З ЧАСАМ

Вялікую цікавасць падчас канферэнцыі выклікалі мініяцюрныя макеты інтэр'ераў, дзе бываў Суцін, створаныя маскоўскім тэатральным цэнтрам «Вулей». Гэта назва невыпадковая, бо мастак, які прыехаў у Францыю з Еўропы, спачатку жыў у прыстанішчы для творчых жабракоў з усяго свету. Звалася яно таксама «Вулеем». Там, па словах Марка Шагала, «альбо акалявалі ад голаду, альбо рабіліся знакамітымі». Цікава і тое, што Дарына Крук, кіраўнік тэатральнага цэнтра, таксама нарадзілася ў Смілавічах. Яна адданая прыхільніца творчасці Суціна.

## СЯБРА, АЛЕ НЕ АДНАДУМЕЦ

Канферэнцыя была прысвечана не толькі Суціну, але і яго земляку, сябру і мастаку Шраге Царфіну. Ён быў, у адрозненне ад Суціна, вельмі прывязаны да сваёй радзімы. Моц карцін Царфіна ўпершыню адчуў менавіта Суцін і падказаў маладому творцу развіваць свае здольнасці. Існуе цэлае даследаванне знакаў і сімвалаў у творчасці Царфіна. Карціны мастака сярэдзіны 1940-х гадоў вельмі багатыя на алегорыі і містыцызм. Потым Царфін адкрые для сябе гатычную архітэктуру і царкоўныя сюжэты — пачне ствараць палотны з выявамі сабораў, залітых загадкавым сінім святлом.

## СХОВІШЧА СКАРБАЎ

Важнай часткай канферэнцыі стала экспазіцыя арыгінальных (у тым ліку самых дарагіх) карцін Суціна і Царфіна, якія былі прадстаўлены толькі адзін дзень — у новай зале музея «Прастора Хаіма Суціна» ў Смілавічах. Выстаўка стала заслугай складальнікаў карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка, бо да 2012 года на тэрыторыі Беларусі не было ні адной працы Суціна. Самая дарагая карціна мастака ў Беларусі, «Ева», каштавала на аўкцыёне 1,8 млн долараў.

Музей «Прастора Хаіма Суціна» быў створаны яшчэ ў 2008 годзе па ініцыятыве Уладзіміра Шчаснага ў Цэнтры дзіцячай творчасці Смілавіч. У першай зале музея, прысвечанага радзіме мастака, размешчаная інфармацыя пра яго сям'ю, перыяды дзяцінства, юнацтва і вучобы ў Вільні і Мінску. Другая зала стылізавана пад атмасферу парыжскіх вуліц. Можна ўбачыць там кафэ са столікамі і крэсламі, а на сценах — рэпрадукцыі карцін Суціна і яго сяброў з «Парыжскай школы».

## ШТО ДАЛЕЙ?

Завяршылася канферэнцыя анонсам працягу «Суцінскіх чытанняў». Дырэктар галерэі «Кніжны салон» Ала Зміёва распавяла пра адкрыццё міжнароднага мастацкага пленэру «Прастора Суціна», запланаванага на восень бягучага года. Усе гэтыя мерапрыемствы дазволяць яшчэ глыбей зразумець феномен Суціна і яго значэнне для развіцця сусветнай культуры і, у прыватнасці, мастацтва Беларусі.

Канферэнцыя арганізавана па ініцыятыве прыватнай установы культуры «Спадчына і час» пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і галерэі «Кніжны салон»

**Марыя ВОЙЦІК**

# Памятаць пра Скарыну

**Падчас XI Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў, што прайшлі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, значная ўвага была звернутая на асобу першадрукара Францыска Скарыны. І гэта заканамерна: сёлета мы адзначаем 525-годдзе з дня яго нараджэння, а праз два гады будзем шырока святкаваць 500-гадовы юбілей айчыннага кнігавыдання. Так, у межах Дзяржаўнай праграмы ўжо пабачылі свет пяць кніг Скарыны ў выглядзе факсіміле, ідзе падрыхтоўка да друку яшчэ сямі выданняў.**

Адметна, што падчас форуму адбылося ўрачыстае гашэнне паштовага блока «525 гадоў з дня нараджэння Францыска Скарыны», выпушчанага Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь у супрацоўніцтве з Беларускай Праваслаўнай Царквой. Макет распрацаваў мастак Іван Лукін. На паштовым блоку змешчана выява самога першадрукара, а таксама словы яго знакамітай прадмовы да кнігі «Юдзіф».

У той жа час навукоўцы адзначаюць, што пра асобу і дзейнасць Францыска Скарыны нам вядома не так і шмат. Доктар гістарычных навук, вядомы медыявіст Георгій Галенчанка падчас пленарнага пасяджэння форуму распавёў:

— Дзейнасць Скарыны вельмі загадкавая, можна нават напісаць асобную работу, прысвечаную фактам, якія мы не ведаем пра нашага славутага земляка. Над вывучэннем спадчыны першадрукара працуюць беларускія, польскія, расійскія даследчыкі, таму варта разглядаць і метадычныя аспекты, якія затрымліваюць працу. Гэта, перадусім, адсутнасць якаснай бібліяграфіі па тэме. Яна разгалінаваная, але кепска структураваная, што выклікае пэўныя спрэчныя пытанні і стварае міфы пра Скарыну. Больш за тое, у сваіх працах даследчыкі карыстаюцца тэрмінамі, што не адпавядаюць часу вывучэння, напрыклад, разглядаюць катэгорыі этнасу, нацыянальнай прыналежнасці. Ды і самі навуковыя працы, прысвечаныя асобе першадрукара, напісаныя на розным узроўні і часта змяшчаюць шмат фантастычнага. Гэта звязана з тым, што перыяд канца XV — пачатку XVI ст. не вельмі добра даследаваны навукоўцамі.

У сваім выступленні Георгій Якаўлевіч звярнуў увагу і на асноўныя міфы, звязаныя з імем Скарыны. Так, існуе версія, што яго бацька быў багатым купцом, аднак ёсць звесткі, што ён здзяйсняў наезды на маскоўскіх купцоў. Натуральна, багаты чалавек мог знайсці спосаб гэтага пазбегнуць, даўшы заданне сваім падначаленым. Загадкай застаецца і навучанне Скарыны ў Падуі ў 1512 годзе. Па меркаванні некаторых даследчыкаў, ён не мог там вучыцца, бо ў той час у Італіі ішлі войны. Магчыма, у Падуі будучы першадрукар толькі здаў экзамен на атрыманне ступені доктара медыцыны, перад гэтым прайшоўшы навучанне ў Кракаве. Справа ў тым, што ступень Падуанскага ўніверсітэта лічылася надзвычай прэстыжнай, — зацвярджалася самім Папам Рымскім.

Але нават нягледзячы на лакуны ў біяграфіі і апісанні дзейнасці Скарыны, яго асоба можа стаць выдатным фактарам для ідэйнага злучэння прадстаўнікоў розных этнічных і канфесійных груп насельніцтва Беларусі. Постаць яго і сёння пазнавальная і выклікае пазітыўныя асацыяцыі. На гэта звярнуў увагу ў сваім выступленні намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, кандыдат культуралогіі Алесь Суша.

— Імя Скарыны адлюстравана ў назвах вуліц, універсітэтаў, навуковых цэнтраў, перыядычных выданняў. Скульптурнае і мастацкае ўвасабленне яго постаці таксама надзвычай багатае. Таму варта працаваць у кірунку папулярызацыі спадчыны першадрукара, бо не ўсе ведаюць, што яго кнігі знаходзяцца ў бібліятэках краіны, і каб іх пабачыць, неабавязкова ехаць за мяжу, — падкрэсліў Алесь Аляксандравіч.

Па меркаванні даследчыка, новым крокам у кнігазнаўстве краіны можа стаць стварэнне Дзяржаўнага рэестра кніжных помнікаў Беларусі, куды ўвойдуць звесткі пра ўсе каштоўныя і рэдкія выданні, што захоўваюцца ў бібліятэках, музеях і нават прыватных калекцыях.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Бібліятэка… у мабільніку



Фота з сайта keddr.com

Электронная бібліятэка Bookmate, якая аб'ядноўвае больш як 200 тысяч кніг на розных мовах свету, цяпер даступная і ў Беларусі. Прэзентацыя гэтага ўнікальнага праекта адбылася ў сталіцы. Адметнасць сэрвісу Bookmate заключаецца ў тым, што ён за невялікую плату прадастаўляе доступ да велізарнай бібліятэкі, дае магчымасць карыстальнікам ствараць уласныя віртуальныя паліцы, дзяліцца ўражаннямі ад прачытаных кніг. Важна, што аплаціць паслугі Bookmate надзвычай проста. У абанентаў кампаніі МТС — партнёра міжнароднага кніжнага сэрвісу — грошы будуць залічвацца з рахунку (1200 рублёў на дзень), аматары іншых мабільных аператараў змогуць аплаціць паслугі бібліятэкі банкаўскай картай праз інтэрнэт ці адправіўшы смс-паведамленне.

Чытаць кнігі з Bookmate можна не толькі на мабільным тэлефоне, але і на камп'ютары, планшэце, варта проста спампаваць з сайта адмысловы дадатак. Пры чытанні можна карыстацца рознымі прыладамі, яны будуць сінхранізавацца і паказваць тую старонку кнігі, на якой вы спыніліся.

Сузаснавальнік бібліятэкі Bookmate Сайман Данлап распавёў:

— Даследаванні паказалі, што людзі ў асноўным чытаюць электронныя кнігі з экранаў мабільных тэлефонаў. Тэлефон заўсёды з сабой. 80 — 85 працэнтаў карыстальнікаў бібліятэкі Bookmate чытаюць кнігі з мабільнага тэлефона. Адметна, што за чытаннем з дапамогай нашага дадатку карыстальнік праводзіць прыкладна 50 хвілін на дзень. Але гэта не значыць, што чалавек адкрыў кнігу і амаль цэлую гадзіну запар правёў з ёй. Ён чытае ў чарзе, калі едзе ў метро ці чакае сябра. Пагадзіцеся, лепш пачытаць хоць некалькі хвілін, чым патраціць гэты час на гульню ці сацыяльныя сеткі. Людзі, якія карыстаюцца бібліятэкай Bookmate, — моладзь ва ўзросце ад 17 да 32 гадоў.

Зараз ідзе працэс падрыхтоўкі паўнавартаснай працы Bookmate ў Беларусі. Так, інтэрнэт-старонка будзе перакладзеная на беларускую мову. Таксама адбываецца працэс фарміравання беларускамоўнага каталога. На электронных паліцах міжнароднай бібліятэкі будзе прадстаўленая беларуская класіка, а таксама (пасля заключэння дамоваў з аўтарамі і выдаўцамі) сучасныя айчынныя выданні. Сёння Bookmate працуе амаль з усімі выдаўцамі Расіі, вялікай колькасцю замежных выдавецтваў. Важна, што беларускія карыстальнікі сэрвісу атрымаюць доступ не толькі да мясцовых выданняў, але і да ўсяго багатага асартыменту бібліятэкі Bookmate.

Для таго каб карыстацца электроннай бібліятэкай Bookmate, неабавязкова мець пастаянны доступ да інтэрнэту. Карыстальнік сэрвісу можа захаваць некалькі кніг на тэлефоне ці камп'ютар і чытаць іх у зручны для яго час. Пры гэтым капіраваць, перасылаць і перадаваць электронныя выданні нельга — самі файлы схаваныя ўнутры дадатку. Так стваральнікі бібліятэкі абараняюцца ад пірацтва.

— Мы ведаем, што і ў Беларусі, і ў Расіі высокі ўзровень пірацтва ў галіне элетронных кніг, — зазначыў спадар Данлап, — але я не думаю, што гэта звязана з жаданнем жыхароў атрымліваць кнігі бясплатна. Хутчэй прычына ў тым, што людзі проста не ведаюць, як і дзе набыць легальныя копіі выданняў. Ды і рынак электронных кніг тут зусім не развіты.

Для выдаўца Bookmate — не толькі магчымасць атрымаць прыбытак (яго памер залежыць ад колькасці чытачоў, якія захочуць прачытаць кнігу), але і дадатковы спосаб прамоцыі сваіх выданняў, а таксама пэўнага кшталту інструмент, што дазволіць сачыць за тым, як чытач рэагуе на кнігу, ці дачытвае да канца, як успрымае сам твор, якімі цытатамі дзеліцца з сябрамі, побач з якімі іншымі кнігамі стаіць выданне на віртуальных паліцах.

Зараз, калі працэс фарміравання беларускага каталога толькі пачынаецца, прадстаўнікі Bookmate гатовыя аказваць айчынным выдаўцам дапамогу ў падрыхтоўцы электронных версій кніг у адмысловым фармаце для мабільных прылад epub. Плануецца правядзенне спецыяльных майстар-класаў, а для некаторых выданняў Bookmate самастойна падрыхтуе epub-версію.

Bookmate — гэта не толькі бібліятэка, але і пэўнага кшталту сацыяльная сетка для аматараў чытання. Сайман Данлап разважае:

— Мы звычайна чытаем кнігі на адзіноце. Але бывае, што прачытанае вельмі моцна на нас уздзейнічае. Можам гучна засмяяцца ў метро, заплакаць ці захацець абмеркаваць прачытанае з сябрамі. Тэхналогія Bookmate дазваляе знайсці чалавека, які ўжо чытаў ці проста зараз чытае гэтую кнігу, падзяліцца цытатай. А хутка ў нас з'явіцца функцыя гутаркі, якая дазволіць абмяркоўваць прачытанае з іншымі карыстальнікамі. Гэта ўсё стварае дадатковае метаполе вакол кнігі, якое дазваляе прыцягнуць новых чытачоў. Пагадзіцеся, калі чалавек збіраецца пачытаць нейкую кнігу, яму вельмі важна разумець, з чым ён мае справу. Не надта хочацца «інвеставаць» 8 — 10 гадзін уласнага часу на твор, які не прынясе ніякай карысці і задавальнення. Таму функцыі рэкамендацый ад аўтара, прафесіянала ў галіне, працуюць на Bookmate. Больш за тое, карыстальнік сам можа зрабіць працэс чытання больш зручным: змяніць колер літар, шрыфт.

У планах Bookmate у Беларусі — праца з выдаўцамі і аўтарамі (у тым ліку правядзенне юрыдычных кансультацый), падтрымка маладых пісьменнікаў, а таксама публікацыя аглядаў навінак ды самых папулярных кніг у СМІ.

Сайман Данлап упэўнены:

— У Беларусі любяць чытаць, мы ж толькі прадстаўляем новы спосаб чытання элетронных кніг, просты і даступны. Bookmate прынясе карысць і выдаўцам. Тыя, хто ўжо выпускае электронныя кнігі, будуць з намі працаваць, а тыя, хто іх яшчэ не мае, пабачаць сэнс падрыхтоўкі кніг у фармаце epub.

Калі вы хочаце стаць карыстальнікам бібліятэкі Bookmate, заходзьце на старонку book.mts.by, спампоўвайце дадатак для тэлефона ці камп'ютара, рэгіструйцеся і атрымлівайце асалоду ад чытання.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

На паліцы

# Слоўныя скарбы Косаўшчыны

**Краязнавец, педагог, руплівы збіральнік самабытнай беларускай народнай лексікі Алесь Зайка жыве ў вёсцы Заполле Івацэвіцкага раёна. Кола яго навуковых інтарэсаў уключае дыялекталогію, фразеалогію, парэміялогію, мікратапаніміку, фалькларыстыку і гісторыю сялібаў. Раней ён выдаў «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» (2011), «Населеныя пункты Івацэвіччыны» (2012), «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» (2013). А нядаўна ў выдавецтве «Тэхналогія» пабачыла свет новая кніга Алеся Зайкі «Прыказкі і прымаўкі, жарты і каламбуры, прыгаворкі і языкаломкі, вясельныя пагаворкі пры дзяльбе каравая, вітанні і зычэнні, ветлівыя і ласкавыя выразы, засцярогі і прысяганні, праклёны і адкляцці, жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі, зневажанні і параўнанні, прыкметы народнага календара з Косаўшчыны».**




Гэтая кніга — першае ў Беларусі сістэматызаванае апісанне парэміялагічнага і фразеалагічнага багацця мовы жыхароў аднаго з куткоў Беларусі — радзімы Тадэвуша Касцюшкі. Запісы фальклорнага матэрыялу зроблены даследчыкам у 1969 — 2014 гадах.

Алесь Зайка распавёў:

— Гэтая кніга — плён маёй доўгай, клапатлівай працы. Працы, якая, што праўда, аніяк не абцяжарвала. Наадварот, прыносіла радасць, адчуванне споўненага абавязку перад людзьмі — маімі суайчыннікамі, што збераглі, захавалі ў маўленні жывое народнае слова. Мяне заўсёды здзіўлялі яркасць і моц іх мастацкага мыслення, уменне выказваццa асацыятыўна, вобразна, дасціпна. Усім ім — мой шчыры дзякуй.

А цяпер давайце трохі пагартаем новую кнігу Алеся Зайкі. Адзначу, што размаўляюць на Косаўшчыне гаворкай, якая вельмі блізкая да літаратурнай мовы. Тут ёсць дзеканне і цеканне, пераход в, л у пэўнай пазіцыі ў ў нескладовае, цвёрдыя шыпячыя, р, ц, аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова і складу перад глухім зычным, цвёрдыя губныя на канцы слова, чарганне ро, ло з ры, лі ды іншыя.

У кнізе Алеся Зайкі ўжыты алфавітны парадак размяшчэння матэрыялу. Пры гэтым укладальнік кіраваўся тым, што тэматычны, прадметна-тэматычны парадак ці размяшчэнне словазлучэнняў па апорным слове мэтазгодныя толькі пры шырокім ахопе тэрыторыі, вялікім зборы выходнага матэрыялу.

Большасць слоўнікавых артыкулаў складаецца з наступных частак: парэміялагічнай або фразеалагічнай адзінкі, пададзенай у літаратурным напісанні, семантычнай характарыстыкі ад укладальніка, тлумачэнні інфарматара, цытаты з аповеду, якія захоўваюць асаблівасці, характэрныя для Косаўшчыны, прозвішча інфарматара і звесткі пра год яго нараджэння, час запісу, месца жыхарства і адміністрацыйную прыналежнасць сялібы па стане на лістапад 2013 года.

Пачнём з прыказак і прымавак і адсочым, як Алесь Зайка іх занатаваў і аформіў у кнізе.

**Агуркамі вячэру не адбудзеш.** Лушчык В. І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас (маецца на ўвазе Квасевіцкі сельскі савет. — **С. Ч.**). Далей ідзе тлумачэнне: пасля цяжкой працы патрэбная сытная ежа.

**Далі сабачку лейцы кіраваць.** Лушчык В. І., 1930 г.н. 2000. Альшаніца Квас. Нягоднага, амаральнага чалавека паставілі начальнікам над людзьмі.

**Млін меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе.** Белаблоцкі В. Я., 1905 г.н., 1985. Заполле Кос. (Непрадуманае слова часта прыводзіць да бяды).

А цяпер пачытаем яшчэ некалькі прыказак і прымавак, якія на Косаўшчыне за 35 гадоў назбіраў для сваёй кнігі Алесь Зайка.

Няма лесу без воўка, а сяла без злодзея; няхай таго пярун спаліць, хто сам сябе зганіць; сліны не падмеш, а слова не вернеш; як пампрэ багаты, то ўсе ідуць у хату, а як пампрэ бедачок, то ідзе поп і дзячок; як у голаў зайдзе, то і на печы знайдзе; хоць ох, але ўдвох.

А вось якія прыкметы з народнага календара, розныя назіранні запісаў Алесь Зайка і ўключыў у сваю кнігу. Некаторыя з іх: зімні дзянёк, што камарыны насок (кароткі, малы); свіння збірае па надворку салому і носіць у хлеў — уначы дождж будзе; прыйшла Пакрова — стала карова; сабака качаецца з боку на бок — чакай змены надвор'я; як на рожках маладзіка можна павесіць вядро — будзе дождж, нельга — дні будуць пагодлівыя і г.д.

Выклікаюць усмешку запісаныя Алесем Зайкам і розныя жарты, каламбуры, прыгаворкі: бывае і каўбаса страляе; гарачае сырым не бывае; дай сала хлеб даесці; задарма і тата маму не пацалуе; зяць за парог, а цешча за яйцы; наеўся, аж кішка прутам стала; пані на ўсе сані; рэзні, каб штаны злезлі; ясна як цёмная ноч і іншыя.

Алесь Зайка часта гуляў на вяселлях, таму запісаў шмат цікавых вясельных прыгаворак пры дзяльбе каравая. Вось некаторыя з іх: дару грошы і пень, каб маладыя меў моц увечары і ўдзень; дару паленца, каб малады маладую пацалаваў за каленца; дару капейку на шчаслівую сямейку і г. д.

Сабраў Алесь Зайка і шэраг языкаломак, напрыклад, жабрак жабрака жабраваць вучыць; павук вусаты наеўся салаты, салата спушыла, павука задушыла; саладуха, саладзіся, толькі ў ражку не згадзіся…

А пажаданні, якія запісаў Алесь Зайка, можна ўжываць і сёння. Калі садзяць капусту, то вяскоўцы на Косаўшчыне кажуць: радзі, Божа, галаўкі з вядро! На ўваходзінах землякі аўтара кнігі жадаюць гаспадарам шчаслівага і доўгага жыцця ў новай хаце зычэннем: дай Бог, каб гэтая хата згніла! А пры чханні жадаюць: вялікі расці, будзеш мак трасці.

А вось якімі словамі на Косаўшчыне людзі праклінаюць адзін аднаго, калі гэта здараецца: дай Бог табе доўга жыць, але аднаму; а каб цябе Пярун на гладкай дарозе цэліў; каб на табе на тым свеце смалу вазілі; каб табе галаву завярнула; каб табе не дало ні дыхнуць, ні зяўнуць; каб тое сала табе калом у горле стала; каб ты ад ветру хістаўся; каб ты сто год жыў, а дзвесце ракам поўзаў; хай цябе Бог пакарае ліхім суседам і г. д. Адзін з самых страшных праклёнаў, які часцей за ўсё жыхары Косаўшчыны казалі і кажуць на заклятых ворагаў: каб зямля твае косці павыкідала!

Запісаў Алесь Зайка і смешныя зневажанні жыхароў Косаўшчыны. Зневажанні гэтыя даволі розныя і абразлівыя. Вось некалькі прыкладаў.

**Валюля** (пра маруднага, павольнага чалавека).
**Ваўкарэзіна** (кажуць пра ліхога чалавека).
**Выскірка** (жанчына, якая без прычыны смяецца).
**Жаба-падрубніца** (непрыгожая, рабая жанчына).
**Гопа** (жанчына з непрыгожай хадой).
**Галідар** (бедны чалавек).
**Камёлак** (поўны, тоўсты чалавек).
**Кілавік** (чалавек, хворы на грыжу).
**Норнік** (занадта запаслівы чалавек).
**Порацік** (маруда).
**Сухарэбрык** (худы чалавек).
**Убоіска** (лянівы як вол).
**Шломба** (пра чалавека, які ходзіць, цягаючы ногі) ды інш.

Вось такую кнігу сабраў на Косаўшчыне Івацэвіцкага раёна былы настаўнік Алесь Зайка. Каб у кожным раёне Беларусі па адным такім Зайку — колькі народных залацінак яны запісалі б, збераглі б для нашчадкаў, для будучыні і наколькі шырэй узбагацілася б наша родная мова — пласт нацыянальнай культуры беларусаў!

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Ці вінаватае люстэрка?

**Прачытала ў часопісе «Беларуская думка» артыкул пра аповесць Людмілы Кебіч «Сама, сама, сама, сама…» Падаўся ён мне калючым, злым, несяброўскім, таму захацелася пазнаёміцца з творам. Думаю, што не толькі ў мяне ўзнікла жаданне пасля такой «крытыкі» прачытаць аповесць. Знайшла, прачытала. Паспрабую і я выказаць свае думкі, што ўзніклі пры чытанні.**

Так, у нашай літаратуры з'явілася «жаночая кніга». Прызнаюся, не вельмі захапляюся творамі, дзе прыгожае каханне, «смачныя» інтымныя сцэны. Кавалер там абавязкова багаты, асыпае каханую кветкамі і падарункамі. Заканчваюцца такія гісторыі заўсёды казачна добра. Але ж ці шмат у сапраўдным жыцці гэтага жаночага шчасця, багацця? Проза жыцця хутчэй жорсткая: і грошай не хапае, і дзіця не дае выспацца, і кватэрнае пытанне не вырашана… Вось і з'яўляюцца непаразуменні, незадаволенасць, развіваецца крызіс сям'і. Свой неардынарны погляд на такое становішча наважылася выказаць і адлюстраваць у аповеці «Сама, сама, сама, сама…» Людміла Кебіч.

Аўтарка знаёміць нас з сучаснымі жанчынамі-сяброўкамі. Цэнтральная фігура аповесці — псіхолаг тэхналагічнага каледжа Алёна. Жанчыну шануюць на працы, «навучэнцы ідуць да яе са сваімі праблемамі». І не толькі навучэнцы. Звяртаецца да Алёны за парадай і другая гераіня Мілана; давярае сваю таямніцу добрая знаёмая, доктар-псіхатэрапеўт Ірма.

Усе гэтыя жанчны паспяховыя, таленавітыя і творчыя асобы. Але ў кожнай з іх не ўсё добра ў сям'і, няма паразумення з «другой палавінкай». Муж Алёны Лявон свой вольны час «прысвячае» канапе, газеце і тэлевізару. Муж Міланы грубы, нахабны і агрэсіўны. Да таго ж здраджвае ёй з іншай жанчынай. Знікла каханне і ў сям'і Ірмы, хоць «вонкава ў іх усё добра». Незадаволеная мужам і Вера Іванаўна. Сяброўкі, не шкадуючы прыкрых слоў, скардзяцца адна адной на чэрствасць мужчын, адсутнасць пяшчоты і спагады. Кожная з іх марыць быць каханай. Як піша аўтар, «на душы ў кожнай з іх балючым цяжарам ляжала спрадвечная праблема — страх, што яе не кахаюць. І кожная з жанчын павінна была па-свойму перааадолець гэты цяжар… абавязкова сама…» І вось Ірма ўжо «шукае хату» для сустрэчы з каханкам, а Мілана гатовая ўцячы з сімпатызуючым ёй прадпрымальнікам за мяжу.

На першы погляд, аўтарка ідэалізуе сваіх гераінь, малюе жанчын белым колерам, а мужчын — чорным. Мне ж гэтак не падаецца. Героі аповесці і святыя, і грэшныя, як гэта і здараецца ў жыцці. Жанчыны клапоцяцца пра свае сем'і, мараць пра каханне. І пры тым гатовыя здрадзіць. Чытач бачыць памылкі маці, якая не навучыла сына паважаць бацьку. Алёна занадта спачувае Мілане, магчыма, нават падштурхоўвае яе да здрады.

Так, мужчыны ў аповесці (па характарыстыцы іх жонак) — жорсткія, чэрствыя, лянівыя і здраднікі. Але ў дзень народзінаў «адтайвае» душа і ў Лявона (прынёс пакет ласункаў), і ў Рыгора («на вачах Рыгора блiснулі слёзы. Ён нагнуўся і пацалаваў жонку ў шчаку»). Пэўна, не ўсё яшчэ страчана ў гэтых сем'ях. Ды і аўтарка мае надзею, што «…наступіць заўтра, і не толькі ў прыродзе, але і ў лёсах жанчын, у іх душах».

Не вельмі прыемна мне, жанчыне, бачыць памылкі і легкадумнасць у паводзінах гераінь. Аднак гэта прымушае зірнуць і на сваю асобу больш крытычна. Напэўна, мужчынам таксама не пашкодзіць убачыць сябе вачыма жанчыны, няхай сабе гэты погляд і крыху перабольшаны. Словам, аповесць вымушае чытача самога шукаць адказ на адвечныя пытанні «хто вінаваты?» і «што рабіць?»

Дарэчы, разважанні над гэтымі пытаннямі ёсць і ў герояў Л. Кебіч — удзельнікаў радыёперадачы. Імпануюць словы Алёны пра тое, што чалавеку патрэбна ставіцца да іншых так, як ён хацеў бы, каб ставіліся да яго. Айцец Павел кажа, што «ўсё значна прасцей, калі прытрымлівацца дзесяці запаведзей…» І ставіць кропку ў дыскусіі: «А ісціна ў тым, што свой лёс, як свой сад, кожны абавязаны апрацоўваць сам. Па думках і намаганнях пазней і плады высеюць». Ці не гэта адказ гераіням?

Безумоўна, тэма закранутая ў аповесці, — «…тэма болю многіх пакаленняў жанчын» — нялёгкая. Адлюстраваная яна таксама нязвыкла, з акцэнтам на негатыўным. Але негатыў — гэта не бяда твора, а хутчэй адвага аўтара, сведчанне глыбокага ведання не толькі светлых бакоў жаночага шчасця. Здаецца, яна вельмі праўдзіва паказала тое, што ёсць у сучасным жыцці. Ці ж вінаватае люстэрка?

Назва аповесці «Сама, сама, сама, сама…» — вобраз, які, як сакрэт сямейнага шчасця, агучвае маці навучэнкі тэхнікума. Толькі, памойму, гэта, наадварот, — сакрэт няшчасця жанчыны, што ставіць на першае месца працу, а не сям'ю, разлік за хібы ў выхаванні будучых жонак і мужоў. Усе мы, мужчыны і жанчыны, мусім не толькі атрымліваць, але і дарыць іншым радасць і дабро.

**Галіна АНДРЭЕВА**

# Зоркі над Нясвіжам

**Прыгожы, гарэзлівы конь нечакана спыніўся пад стромкай сасной узбоч вузкай лясной дарогі. З вазка ступіў на зямлю невысокі чалавек у чорнай вопратцы, пяшчотна пагладзіў прыгожага скакуна і ўзняў вочы ў неба, падставіўшы твар сонцу.**


Фота з сайта be-x-old.wikipedia.org.

Помнік Сымону Буднаму ў Нясвіжы.

Такога пранікнёнага сонечнага цяпла ён не адчуваў даўно. У манастырскім жыцці пануе паўзмрок сцішаных келляў і рэдка надараецца магчымасць атрымаць асалоду ад сонечнай пяшчоты.

У гэтую хвіліну ён адчуў, што яго цела, стомленае дарогай, напаўняецца нейкай незвычайнай сілай, нібыта ён і не праехаў сотні вёрст. Быў пачатак верасня, і ў прыродзе бачылася столькі прыгажосці, столькі незвычайнага разнаквецця, што наваколле падалося манаху сапраўдным раем. Яшчэ панавала лета. На траве не было відно ніводнага лісточка, нібыта лесавік сабраў іх, каб адкрыць незнаёмцу чысціню нясвіжскай пушчы.

Дзівячыся прыгажосці, чалавек нават на імгненне забыўся на сваё падарожжа. Але тут, у высокай зацені, ветрыкам мільгнула вавёрка і проста ў рукі святару скацілася вострая шышка. Ён схамянуўся, усміхнуўся, падумаў, што гэтак гарэзлівая істота вітае яго і нагадвае пра неадкладную справу, ступіў у вазок і пусціў вольна свайго нецярплівага бегуна.

Такім вераснёвым днём пасланец Куцейнскага манастыра з-пад Оршы схіліўся ў паклоне перад філосафам, пісьменнікам і прадаўжальнікам друкарскай справы вялікага Францыска Скарыны Сымонам Будным. Вестку ён прынёс у Нясвіж трагічную. Вялікі Полацк — бацька гарадоў беларускіх, асяродак нацыянальнай культуры і айчыннай дзяржаўнасці, сталіца магутнай Полацкай зямлі, быў зруйнаваны войскамі Маскоўскага княства. Ішоў 1563 год.

Гутарка ў друкарні доўжылася, да размовы далучыліся паплечнікі Сымона Буднага, і чым больш яскравым станавілася ўяўленне пра Полацкую трагедыю, тым мацнейшай станавілася трывога за лёс Вялікага Княства. У суразмоўцаў узнікла адчуванне асабістай віны, бездапаможнасці перад лёсам. Аднак усе разумелі, што гэтае адчуванне — ад жалю, усведамлення таго, што жахлівае здарэнне ўжо адбылося і змяніць нічога нельга.

Калі прайшлі першыя ўражанні ад страшэннай весткі, Сымон Будны загаварыў пра неабходнасць і магчымасці апавяшчэння зямель Вялікага Княства і замежных краін аб паразе Полацка. Узнікла пытанне: як гэта зрабіць? Напісаць і надрукаваць кнігу, як «Катэхізіс» у 1562 годзе? Было б дарэчы, але і матэрыял патрэбна сабраць, і час праспешвае. А вестка такая грымотная і пагрозлівая, што не трымаецца ў душы аднаго чалавека, а нібыта рвецца праз рэкі і пушчы да кожнага насельніка Вялікага Княства ад мора і да мора.

У роздумнай цішыні Сымон Будны раптам нібыта прасвятлеў думкай. «А мы надрукуем лісток-бліскавіцу, — сказаў ён, — як гэта робяць гандляры ў італьянскім горадзе Генуя і прадаюць сваю пісанку за дробную манету «газета». Давайце зробім такую «газету» пра падзеі ў нашай паўночнай Венецыі, як называюць замежнікі слаўны горад Полацк».

Суразмоўцы пагадзіліся, ім прыйшлася даспадобы прапанова, і ўсе пачалі рыхтаваць друкарскія прылады, а Сымон Будны схіліўся над аркушам паперы. Рука пісьменніка вывела назву «Навіны грозныя…» на беларускай мове.

Ніхто са стваральнікаў першага беларускага выдання, фактычна пачынальнікаў айчыннага перыядычнага друку, нават інфармацыйнай рэвалюцыі на землях Вялікага Княства Літоўскага, не ўяўляў эпахальнасці свайго дзеяння. Гэта ў поўнай меры з захапленнем ацэняць нашчадкі. А ў сярэднявечнай Нясвіжскай друкарні стваралася выданне, якое апярэдзіла многія еўрапейскія пачынанні, было першым ва ўсходніх славян, як і Біблія знакамітага Францыска Скарыны.

Лісток, прагазета, як назавуць гэтую з'яву вучоныя, з хуткасцю птушынага лёту праляцеў над Вялікім Княствам ад Смаленска да Берасця, ад крэпасці Кукейнас да праваслаўнага манастыра на Чорным моры, адкуль пайшла хрысціянская вера па ўсёй Русі. Пагалоскі ад беларускіх «Навін грозных…» промнямі Полацкай бяды прайшлі і па Заходняй Еўропе. У Нямеччыне былі надрукаваны такія ж газеты-першавыданні, у якіх насцярожаным рэхам адбіліся падзеі ў Вялікім Княстве.

Сымон Будны быў задаволены тым, што ўзняў друкаванае слова ў абарону роднай зямлі, і гэтае святое слова адгукнулася ў сэрцах людзей Вялікага Княства і праз стагоддзі дайшло да нашых сучаснікаў.

Цяпер праслаўлены асветнік з годнасцю мудраца і празарлівца ўзіраецца ў сучаснасць і будучыню Беларусі з вышыні свайго помніка ў Нясвіжы. Наш таленавіты зямляк хоча дасканала ведаць, што адбываецца ў Нясвіжы, Беларусі і ў свеце праз паўтысячы гадоў пасля яго. Чаму, напрыклад, маладая жанчына падвяла да яго цэлую кагорту людзей, якія так паважліва і клапатліва ўскладаюць прыгожыя кветкі да яго помніка?

Сымон Будны прыглядзеўся і ў гэтай прыгожай жанчыне пазнаў маленькую дзяўчынку, якая скакала верабейчыкам тут, на плошчы, гадоў пяцьдзясят таму. Таленавіты рэдактар часопіса «Народная асвета» Ала Маслава нарадзілася ў Нясвіжы ў сярэдзіне XX стагоддзя. Родны дом яе стаіць за паўднёвай сцяной Нясвіжскага замка.

Ала Маслава правяла ў гэтым цудоўным горадзе дзяцінства і юнацтва. Яе дзявочай душэўнасцю сагрэтыя муры Нясвіжскага замка, непаўторнай прыгажосці палаты і залы палаца, маляўнічыя эрмітажы паркавага ансамбля. Таямніцы і легенды, міфы і паданні, што мрояцца ў гісторыі горада і Нясвіжскага замка, напаўнялі душу маладой дзяўчыны хараством і прыгажосцю, незвычайнай улюбёнасцю ў Радзіму. У рознакаляровым люстэрку азёр і паркаў, кружэнні ў гісторыі вакол таленавітых асоб беларускага мінулага, асабліва прывабная сцяжынка каля помніка Сымону Буднаму як душэўны абярэг-загадка выхавалі ў яе душы ўзнёслы вобраз непаўторнай Бацькаўшчыны, адказнае, як наказ маці, пачуццё неабходнасці перадаць скарбы роднага краю наступным пакаленням.

Тут гадаваўся і выхаваўчы дар Алы Маславай, дар настаўніцы і педагога, жаданне, каб высакародная, святая і велічная мінуўшчына Беларусі адбілася ў душы маладога пакалення і захавалася для нашчадкаў.

Таму і нядзіўна, што Сымон Будны пазнаў сваю калегу па друкарскім цэху, паплечніка па адукацыі і асвеце. Буднаму стала сумнавата і адначасова зайздросна. Ён надрукаваў у сярэднявеччы адзіны нумар «Навін…», а часопіс «Народная асвета» людзі чытаюць ужо 90 гадоў. Вось гэта помнік!

Рэфарматару адукацыі пашчасціла адкрыць незвычайную, высакародную і трапную назву для аднаго з самых вядомых часопісаў Беларусі «Народная асвета». Па ўсім відаць, што першы рэдактар быў філосафам і правідцам. «На вачах» у часопіса інтэлектам яго супрацоўнікаў-журналістаў у нашай краіне створана дзейсная сістэма адукацыі, а на гэтай аснове — навука, прамысловасць і сельская гаспадарка, нацыянальная культура, сфарміраванае сучаснае цывілізаванае грамадства. У «Народнай асвеце» вырастала таленавітая нацыянальная літаратура, крышталізавалася беларускае прыгожае слова ў творах Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава.

Непарыўны аналіз і засваенне лепшага выхаваўчага вопыту, які адлюстраваны ў «Народнай асвеце», спрыяе фарміраванню ў рэспубліцы таленавітага форуму настаўнікаў, сапраўднага інстытута педагагічнага майстэрства. Каштоўнасць часопіса — у філасофскай паслядоўнасці яго падзвіжніцкай дзейнасці. Выданне з'явілася ў самым пачатку разгортвання нацыянальнай адукацыйнай плыні. Адной з галоўных праблем, якая патрабавала неадкладнага рашэння, была распрацоўка заканамернасцей функцыянавання і пашырэння ўжытку беларускай мовы, стварэнне метадычнай і вучэбнай літаратуры, каб выканаць неадкладную задачу савецкай улады па ліквідацыі непісьменнасці.

Сучасніку цяжка ўявіць, што ў далёкія 1920-я гады ў БССР зусім не было падручнікаў для школ. Іх патрэбна было стварыць у адпаведнасці з законамі новай фармацыі. Гэтая праблема ўскладнялася яшчэ і тым, што ў Беларусі былі канстытуцыйна зацверджаны чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, руская, польская і яўрэйская. Тэхнічнай базы для выдання літаратуры таксама не ставала. Беларускія школьныя падручнікі ў той час друкаваліся ў Германіі, дзе існавала якасная паліграфічная база. Нельга падлічыць, колькі каштавалі гэтыя кнігі для нашай краіны.

Цана была вельмі высокай, але здабытак стаў у сто разоў даражэйшы. Сёння ўсе грамадзяне Беларусі атрымліваюць сярэднюю адукацыю, а па колькасці студэнтаў (у працэнтных адносінах да ўсяго насельніцтва) наша дзяржава нароўні з найбольш развітымі еўрапейскімі краінамі.

**Алег СЛУКА,**
**прафесар, доктар гістарычных навук**

*«Сучасніку цяжка ўявіць, што ў далёкія 1920-я гады ў БССР зусім не было падручнікаў для школ. Іх патрэбна было стварыць у адпаведнасці з законамі новай фармацыі. Гэтая праблема ўскладнялася яшчэ і тым, што ў Беларусі былі канстытуцыйна зацверджаны чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, руская, польская і яўрэйская. Тэхнічнай базы для выдання літаратуры таксама не ставала. Беларускія школьныя падручнікі ў той час друкаваліся ў Германіі, дзе існавала якасная паліграфічная база. Нельга падлічыць, колькі каштавалі гэтыя кнігі для нашай краіны.*

## Маладзічок

# «Ёсць у нас неабсяжная ніва…»




З добрай зайздрасцю сачу за творчасцю маладзейшага калегі Міколы Чарняўскага. І вельмі ўсцешыўся, калі пазнаёміўся з яго новай кнігай «З думкай пра Беларусь, альбо Ёсць дзіва, адвечнае дзіва…», выдадзенай у «Народнай асвеце».

Як пазначана ў анатацыі, кніга адрасавана ў першую чаргу дзецям сярэдняга школьнага ўзросту. Але я ўпэўнены: гэта выданне будзе надзвычай карысным для кожнага. Ці не цікава пазнаёміцца з жыццём славутых людзей нашай Бацькаўшчыны, тых, хто пакінуў прыкметны след у гісторыі, узбагаціў культурную спадчыну нашага народа?

«Ёсць у нас неабсяжная ніва — слынных сейбітаў клопат і плён…» Быццам падмацоўваючы згаданыя вершаваныя радкі, адкрываецца кніжка раздзелам «Словы роднае — вечнасці след», які змяшчае восем апавяданняў — творчых партрэтаў дзеячаў літаратуры і мастацтва. Скажу шчыра: хоць сам я, здаецца, і няблага ведаю жыццяпіс Янкі Купалы, але з цікавасцю «перагарнуў» старонкі яго біяграфіі, зноў пабываўшы ў Вязынцы, дзе ва ўсе паравіны года рада гасцям хата, у якой у 1882 годзе нарадзіўся будучы слынны паэт, прайшоў сцежкамі незабыўнага Купалы, дзе ён знаходзіў запаветныя словы.

Думаецца, чытачы з асаблівай прыемнасцю даведаюцца і пра тое, што ўспаміналі Ганна Цімафееўна Гагарына — маці першага касманаўта Юрыя Гагарына. Аказваецца, у маленстве знакаміты верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык» (у перакладзе на рускую мову) любіў і ведаў на памяць яе сын.

Цёпла, пранікнёна аўтар кнігі «З думкай пра Беларусь» расказвае пра творчую спадчыну Алаізы Пашкевіч — Цёткі.

З хваляваннем, глыбокім веданнем літаратурнай спадчыны, апавядае М. Чарняўскі сённяшнім чытачам пра жыццё і творчы шлях нязгаснай зоркі нашай паэзіі Максіма Багдановіча. Варта даведацца, як ушаноўваецца ў нас і ў Расіі, дзе ён жыў і вучыўся, імя нашага класіка.

Баюся, што маладыя чытачы мала ведаюць (а магчыма, і не чулі нават!) пра жыццёвы і творчы шлях Алеся Гаруна. Свае першыя творы — «песні-думы» на беларускай мове — Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун) падпісваў таксама псеўданімам А. Сумны. Ён, выпускнік мінскага рамесніцкага вучылішча, у сямнаццаць гадоў звязаў свой лёс з рэвалюцыйнай арганізацыяй, уключыўся ў барацьбу супраць царскага самадзяржаўя. Арыштаваны ў падпольнай друкарні, калі рыхтавалася да выхаду чарговая лістоўка, паэт быў жорстка пакараны — асуджаны на дзесяць гадоў высылкі ў далёкую Сібір. Там, пад наглядам паліцыі, нараджаўся першы (і, як сталася, апошні) паэтычны зборнік Алеся Гаруна «Матчын дар».

Кніга ўбачыла свет у 1918 годзе ў Мінску пасля вяртання паэта з Сібіры. «Гэтую першую кніжку думак і песняў сваіх матцы прысвячаю», — пазначыў на ёй аўтар. А потым былі заўчасная (у трыццаць тры гады ўсяго!) смерць далёка ад радзімы, у польскім Кракаве, і несправядлівае забыццё на доўгія дзясяткі гадоў.

«Чараўнік з краіны маленства», «Жыў на свеце дзед Васіль…», «Каб дзяліцца з людзьмі дабрынёй». У гэтых эсэ М. Чарняўскі з любасцю і ўдзячнасцю ўзгадвае пра сваё захапленне творами цудоўных казачнікаў, мудрых майстроў дзіцячай літаратуры Алеся Якімовіча, Васіля Віткі і Пятра Рунца, дзеліцца радасцю сустрэч з імі. Аўтар не проста ўспамінае ды расказвае пра іх жыццё і творчасць, а дзякуючы таму, што быў блізка знаёмы з гэтымі пісьменнікамі, адкрывае нам нямала сапраўды новага і нечаканага.

> *Сёння — напярэдадні вялікай даты — 70-годдзя Вялікай Перамогі — нельга абмінуць увагай эсэ «Музей векапомнай славы». Аказваецца, музей пра вайну быў створаны… у час вайны! Восенню 1943 года Цэнтральны штаб партызанскага руху разаслаў камандзірам злучэнняў, брыгад і атрадаў народных мсціўцаў радыёграмы: збіраць экспанаты для музея Вялікай Айчыннай вайны.*

Упэўнены, што шмат карыснага для сябе знойдуць чытачы і ў апавяданні пра «ўладара чароўных фарбаў», чалавека незвычайнага творчага лёсу, самабытнага графіка, жывапісца, скульптара, літаратара і краязнаўцу Язэпа Драздовіча. Прызнаюся, для мяне самога многія факты з яго жыццёвай і творчай біяграфіі сталі адкрыццём, я адчуў сапраўдную асалоду ад знаёмства з гэтай неардынарнай творчай асобай, патрапіўшы ў свет яго ных зямных і касмічных вобразаў і краявідаў, народжаных бязмежнай мастакоўскай фантазіяй.

Урэшце не толькі гэтым каштоўнае выданне. Чытач пазнаёміцца з тым, як ствараліся славутыя слуцкія паясы, пабывае ў «акадэміі» ганчарства ў Івянцы, прачытае пра горад над Лідзейкаю і старажытны Лідскі замак, даведаецца, што друкавалася ў першых беларускіх чытанках для дзяцей, а таксама на старонках літаратурнага і навукова-пазнавальнага часопіса «Лучынка», які выходзіў пад рэдакцыяй Цёткі.

Вядома ж, сёння — напярэдадні вялікай даты — 70-годдзя Вялікай Перамогі — нельга абмінуць увагай эсэ «Музей векапомнай славы». Аказваецца, музей пра вайну быў створаны… у час вайны! Восенню 1943 года Цэнтральны штаб партызанскага руху разаслаў камандзірам злучэнняў, брыгад і атрадаў народных мсціўцаў радыёграмы: збіраць экспанаты для музея Вялікай Айчыннай вайны. Адкрыўся музей праз год, у Доме прафсаюзаў на плошчы Свабоды, што цудам уцалеў у разбураным Мінску.

Напісаныя добрай, зразумелай для чытача мовай, празаічныя аповеды М. Чарняўскага вельмі ўдала дапаўняюцца вершамі аўтара. Яны робяць кнігу «З думкай пра Беларусь» яшчэ больш змястоўнай і прывабнай.

І, вядома ж, Мікола Чарняўскі скарыстаўся магчымасцю загадаць (у асноўным самым юным чытачам) загадкі. Іх аўтар «прынёс з краязнаўчага музея», дзе можна ўбачыць тыя старыя і нават забытыя рэчы.

Словам, хочацца яшчэ раз парадавацца за творчы поспех аўтара, а выдавецтва «Народная асвета» павіншаваць з цудоўным выданнем.

**Міхась ДАНІЛЕНКА**

# Мінуўшчына: простая формула

З пачаткам XXI стагоддзя назіраецца чарговая хваля папулярызацыі дасягненняў навукі, перадусім гуманітарнай. Асаблівай увагай выдаўцоў і чытачоў карыстаецца гісторыя.




*Саверченко И. Блеск короны: Повесть-нарация, эссе. Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 326 с.*

Белетрызацыяй даўно займаюцца Вітаўт Чаропка, Алесь Марціновіч, Зінаіда Дудзюк… Але гэтая ніва па-ранейшаму пакідае вялікія дзялкі для шчыравання. У шэрагу такіх папулярызатараў і доктар філалагічных навук, спецыяліст па вывучэнні перыяду ранняга Новага часу Іван Саверчанка. Напрыканцы мінулага года свае набыткі і творчыя зацікаўленні Іван Васілевіч увасобіў у форме кнігі біяграфістыкі. Аб'ектамі ўвагі аўтара сталі выбітныя асобы тысячагадовай беларускай гісторыі: Усяслаў Чарадзей, Вітаўт, Астафій Валовіч, Сымон Будны, Іпацій Пацей, Леў Сапега, Іосіф Вельямін-Руцкі, Кастусь Каліноўскі, Вацлаў Ластоўскі.

У выбары персанажаў для мастацкіх эсэ, канечне, адчуваецца навуковая спецыялізацыя аўтара. Аднак усе героі атрымалі долю душэўнай цеплыні пры захаванні аб'ектыўнасці ў разглядзе іх дзейнасці. Атрымаліся не канцылярскія справаздачы пра іх сацыяльныя здабыткі, а хутчэй драматычныя аповеды з раскрыццём характараў пратаганістаў, аналізам паводзін у самых розных сітуацыях.

Стыль мастацкай падачы І. Саверчанкі некаторыя могуць назваць спрошчаным. Галоўным чынам гэта тычыцца першага твора — аповесці-нарацыі пра Усяслава Чарадзея. Але лепей назваць такі падыход асветніцкім. Таму што праглядаецца адрасаванасць выдання моладзевай аўдыторыі, перадусім старшакласнікам і студэнтам, а таксама тым, хто толькі прыходзіць да беларушчыны (у тым ліку іншаземцам) і не валодае мовай народа, гісторыю якога хацелася б спазнаць. Думаецца, з гэтай жа прычыны кніга напісаная на рускай мове.

Выданне мае асветніцкі характар не толькі ў аспекце вывучэння жыццядзейнасці культавых постацей нашай даўніны, але і ў сэнсе спазнання чалавечай мінуўшчыны ў шырокім плане — і гэтак званай гісторыі штодзённасці (асабліва што тычыцца «Залатога амулета»), і розных сфер культуры — рэлігійнай, дыпламатычнай, палітычнай… Так, з першага твора — пра Чарадзея — чытач даведваецца пра жыццё-быццё палачан: як пра духоўны яго бок, так і матэрыяльны. Канечне, у напаўмастацкім творы немагчыма расказаць падрабязна пра ўсе працэсы. Але агульнае паняцце чытач будзе мець. Напрыклад, пра чорную металургію на Полаччыне:

«Вместе с воеводой Жинем и тремя дружинниками, которые сопровождали Всеслава верхом на лошадях, он направился к одному из близлежащих рудников. Там деревенские металлурги показали князю месторождения железной руды, способы ее добычи. Затем, шаг за шагом, раскрыли весь долгий процесс варки железа в доменных печах — отделение шлаков, получение крицы и, наконец, изготовление сыродутным способом высококачественной стали».

У той жа час адчуваецца недахоп слоўніка, які дапамог бы паспалітаму чытачу разабрацца ў сэнсах спецтэрмінаў.

І. Саверчанка на прыкладах гістарычных асоб адлюстроўвае не толькі багацце іх духоўнага свету, але і стракатасць, веліч старадаўняй беларускай культуры, часта падкрэсліваючы гэтыя рысы еўрапейскім кантэкстам. Прадстаўленыя постаці маглі быць нават сапернікамі па ідэалогіі (як, напрыклад, пратэстант С. Будны і уніят І. Пацей). Мультыкультуральнасць звяртае ўвагу на багацце нашага народа і яго самавітую прадстаўнічасць у цывілізаваным свеце.

Асобна адзначым, што аўтар не баіцца вылучаць гіпотэзы на ўмоўным ладзе (чаго не было б у навуковым фармаце) і рабіць высновы, часам нестандартныя ды нават рызыкоўныя (у сэнсе рэакцыі магчымых крытыкаў).

Створаны Іванам Васілевічам беларускі пантэон, несумненна, варта пашыраць. Дзякуючы такім работам, разлічаным на масавага чытача, умацоўваецца і гонар за нашых продкаў. І хоць ад прэтэнзій Вітаўта на карону застаўся толькі бляск, але і яго водбліск сёння не дае прыйсці прыцемкам у святліцу Беларускага Дома.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# Тое, чаго не было

**Белгазпрамбанк папоўніў сваю карпаратыўную калекцыю працамі класікаў нацыянальнай школы жывапісу — Фердынанда Рушчыца і Станіслава Жукоўскага. У прыватнага калекцыянера з Беларусі былі набыты пейзажы Ф. Рушчыца «Хлеў і прасла для сена» (1899) і С. Жукоўскага «Адліга. Свіслацкая пушча» (1935).**

Уклад Фердынанда Рушчыца (1870 — 1936) у мастацтва Беларусі, Літвы і Польшчы цяжка пераацаніць. Менавіта ён арганізаваў ў 1919 годзе мастацкі факультэт адроджанага тады Віленскага ўніверсітэта. У вёсцы Багданава Валожынскага раёна Мінскай вобласці знаходзіцца магіла мастака, тут жа плануецца стварэнне мемарыяльнага музея яго імя. Пры ўсім гэтым у нашай краіне захоўваецца толькі адно палатно Ф. Рушчыца, якое знаходзіцца ў зборы Нацыянальнага мастацкага музея. Каб выправіць гэтую прыкрую акалічнасць, Белгазпрамбанк адшукаў і набыў адзін з твораў жывапісца. На маляўнічым эцюдзе «Хлеў і прасла для сена» — наваколлі Багданава, дзе знаходзіўся радавы маёнтак майстра і дзе ён напісаў лепшыя са сваіх твораў.

У адрозненне ад небагатай спадчыны Рушчыца, работ Станіслава Жукоўскага (1873 — 1944) у Нацыянальным мастацкім музеі каля сарака. Але сярод іх няма ніводнага ўласна беларускага пейзажу. Адзін з самых уплывовых пейзажыстаў пачатку XX стагоддзя С. Жукоўскі шмат падарожнічаў па Еўропе і Расійскай імперыі — «захоўваў» прыгажосць мясцовых ландшафтаў. Аднак штогод жывапісец нязменна выпраўляўся на пленэр на Гродзеншчыну — па сваіх родных мясцінах. Белгазпрамбанку пашчасціла стаць уладальнікам адной з работ Станіслава Жукоўскага, прысвечаных краявідам Свіслацкай пушчы — паўночнай часткі Белавежскай. Па звестках мастацтвазнаўцаў, нават у музеях Польшчы, дзе мастак правёў апошнія дваццаць гадоў жыцця, працы гэтага цыкла практычна не прадстаўлены.


Фердынанд Рушчыц «Хлеў і прасла для сена». 1899 г.

Набыткі Белгазпрамбанка значна пашырылі канцэпцыю яго карпаратыўнай калекцыі. Першапачаткова былі творы, прысвечаныя спадчыне мастакоў Парыжскай школы з Беларусі, цяперашняя калекцыя адлюстроўвае спецыфіку больш глабальнага праекта «Арт-Беларусь». Мэта яго — паказаць працэс развіцця культуры нашай краіны ва ўсёй паўнаце. Фарміраванне калекцыі сёння звязана з вяртаннем у культурны кантэкст незаслужана забытых імёнаў беларускіх мастакоў, якія належаць да розных гістарычных эпох.

**Таццяна ШЧЭРБА**


Станіслаў Жукоўскі «Адліга. Свіслацкая пушча». 1935 г.

### Даведка «ЛіМа»

Фердынанд Рушчыц (1870, маёнтак Багданаў Мінскай губерніі — 1936, там жа) — мастак, педагог, грамадскі дзеяч. Майстар рамантычнага пейзажа. У 1892 — 1897 гг. навучаўся жывапісу пад кіраўніцтвам І. Шышкіна і А. Куінджы ў Імператарскай Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбургу. Браў удзел у выстаўках аб'яднання «Свет мастацтва», таварыства польскіх мастакоў мадэрнісцкай арыентацыі «Sztuka». У 1904 — 1907 гг. выкладаў жывапіс у Вучылішчы прыгожых мастацтваў у Кракаве, прафесар кракаўскай Акадэміі мастацтваў. У 1918 — 1919 гг. кіраваў стварэннем мастацкага факультэта Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні і быў яго першым дэканам. У 1921 годзе стаў арганізатарам першай афіцыйнай выстаўкі польскіх мастакоў у Гран-Пале ў Парыжы. У сувязі з гэтым узнагароджаны французскім ордэнам Ганаровага легіёна. У віленскі перыяд працаваў старшынёй камісіі па ахове помнікаў старажытнасці, супрацоўнічаў з тэатрам.

Станіслаў Жукоўскі (1873, маёнтак Старая Воля каля в. Ендрыхавічы Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерніі — 1944, г. Прушкаў, каля Варшавы, Польшча) — жывапісец, педагог. Скончыў Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства, дзе вучыўся ў І. Левітана. У 1899 годзе яго карціна «Месяцовая ноч» была набыта Траццякоўскай галерэяй. Да пачатку XX ст. С. Жукоўскі стаў адным з самых вядомых у Расіі пейзажыстаў імпрэсіяністычнага кірунку. Арганізаваў у Маскве прыватную школу, дзе кладаў. У 1923 годзе вярнуўся ў Беларусь, затым перасяліўся ў Польшчу. Падчас Другой сусветнай вайны мастак быў арыштаваны нацыстамі. Памёр у канцэнтрацыйным лагеры ў Прушкаве ў 1944 годзе.

# Вяртанне вандроўніка

**Філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах прадставіў выстаўку Вячаслава Дубінкі «Я проста ў далёкай вандроўцы...». У экспазіцыі больш як 30 мастацкіх сюжэтных работ, выкананых у тэхніцы выцінанкі, з прыватнай калекцыі Таццяны Дубінкі і фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.**

Выцінанка — арнаментальны ці сюжэтны ўзор, выразаны з паперы пры дапамозе кравецкіх нажніц ці нажа. На тэрыторыі Беларусі з'явілася ў XVIII — XIX стагоддзях. Атрымала шырокае распаўсюджванне ў афармленні сялянскага інтэр'ера з сярэдзіны XIX стагоддзя. Найбольшы яе росквіт прыпаў на канец XIX — пачатак XX стагоддзя, пэўны ўсплёск папулярнасці назіраўся ў пасляваенныя гады.

У 70—80-я гады XX стагоддзя традыцыйнае мастацтва выцінанкі вяртаецца дзякуючы росту цікавасці творчай інтэлігенцыі да сваёй спадчыны. Тады выразаннем з паперы захапіліся нямногія, і сярод іх быў прафесійны фатограф і журналіст Вячаслаў Дубінка.

Вячаслаў Андрэевіч (1941 — 2010) нарадзіўся ў горадзе Слуцку Мінскай вобласці. За сваё жыццё паспеў авалодаць шэрагам прафесій і заняткаў: быў цесляром, мулярам, брыгадзірам комплекснай брыгады, тэхнікам-пуцейцам, кокам на кацеры, механікам на рыбалоўным траўлеры, геолагам, пераплётчыкам.

У 1960-х гадах працаваў фотакарэспандэнтам любанскай, салігорскай і лагойскай раённых газет. З'яўляўся сябрам некалькіх творчых саюзаў Беларусі: журналістаў, народных майстроў, мастакоў, пісьменнікаў. За афармленне кнігі Артура Вольскага «Жывыя літары» (1984) узнагароджаны дыпломам Францыска Скарыны.

Выстаўку можна наведаць да 29 чэрвеня.



**Ганна ШЫМУК**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# Паштоўкі Вялікай Айчыннай

**Салдацкія трохкутнікі — адзін з сімвалаў Вялікай Айчыннай вайны. Яны прыносілі і найвялікшую радасць, калі родныя даведваліся, што іх салдат жывы і здаровы, і смутак, калі баец быў цяжка паранены або скалечаны. Самымі ж чорнымі пасланнікамі бяды былі пахаронкі…**

Але існаваў яшчэ адзін від эпісталярных зносін — паштоўкі. Іх пачалі друкаваць з першых месяцаў вайны, каб узняць баявы дух салдат Чырвонай Арміі, паказаць зверствы нямецка-фашысцкіх захопнікаў, арганізаваць мірнае насельніцтва на барацьбу з ворагам. Так, ужо з 1941 г. у Ленінградзе друкаваліся паштоўкі з красамоўнымі назвамі: «Танк КВ знішчае варожы дзот», «Захаваем помнікі рускай культуры», «За вадой на Няву», «Мы гэта ніколі не забудзем!». Навагодняя серыя нагадвала байцам пра мірнае жыццё, іх сем'і і заклікала не шкадаваць ні сіл, ні жыцця для Перамогі.

Падчас працы з фондам Мікалая Лобана ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ) я натрапіў на некалькі паштовак ваеннага часу. Кожная з іх мае сваю гісторыю…

Вось паштоўка ад знаёмай настаўніцы Міколы Лобана, з якой яны разам працавалі ў пасёлку Келераўка Паўночна-Казахстанскай вобласці. Жанчына выказвае падзяку Мікалаю Паўлавічу за дапамогу яе сыну ў дарозе.




*Паштоўка ад Івана Мележа.*

Паштоўка надрукавана ў 1942 г. у Свярдлоўску Выдавецтвам упраўлення скульптурна-мастацкімі прадпрыемствамі мастацкага фонду СССР. На ёй змешчаны партрэт Героя Савецкага Саюза лётчыка А. Лук'янава, а на адваротным баку — тэкст: «4 ліпеня 1941 года камсамолец малодшы лейтэнант А. А. Лук'янаў у паветраным баі тараніў самалёт ворага, а астатнія нямецкія машыны адагнаў ад ахоўваемага ім аб'екта. Усяго на ліку Лук'янава 6 знішчаных варожых самалётаў».

Падобная паштоўка таго ж выдавецтва была адпраўлена Мікалаю Лобану 20 кастрычніка 1943 г. з пасёлка Келераўка настаўніцай Еўдакіяй Баранавай. На ёй — партрэт Героя Савецкага Саюза лётчыка М. Татміна, работа мастака А. Н. Яр-Краўчанкі. Тэкст на адвароце — пра яго подзвіг: «4 ліпеня 1941 года на наш аэрадром наляцела вялікая група «Юнкерсаў-88» і «Месершмітаў-109». Насустрач ворагу ўзляцеў наш знішчальнік, якім пілатаваў камсамолец старшына Мікалай Якаўлевіч Татмін. Ён уступіў у няроўны бой і не даў магчымасці немцам бамбіць наш аэрадром. У гэтым баі Татмін на сустрэчным курсе плоскасцю свайго самалёта тараніў «Месершміт-109» і ўвагнаў яго ў зямлю». Прааналізаваўшы подпісы да абодвух малюнкаў, можна зрабіць выснову, што лётчыкі Лук'янаў і Татмін удзельнічалі ў адным і тым жа паветраным баі.

Яшчэ адну паштоўку Міколе Лобану адправіў з дзеючай арміі 25 снежня 1943 г. яго паранены сябар па іркуцкім шпіталі Б. Кур'яце: «Дарагі Мікалай Паўлавіч! Твой ліст, які ты пісаў 1 кастрычніка 1943 года, я атрымаў 22 снежня, за што табе вельмі ўдзячны. Бо мы ж дамаўляліся быць сябрамі і сустрэцца ў Мінску, або ў хаце тваіх родных, а для гэтага патрэбна мецъ зносіны. Я цяпер ужо сапраўдны салдат і ведаю, што такое фронт і артылерыйская музыка. Хаця на перадавой яшчэ не быў, але знаходзіўся вельмі блізка. З афіцэрскай школы я быў накіраваны радыстам у дзеючую армію, а зараз вучуся на наводчыка артылерыі 76 мм. Жыццё мае для цябе, як чалавека вопытнага ў гэтай справе, вядомае. Як твае справы і вучоба? Пішы. Да пабачэння. Твой сябар Барыс».

Вось паштоўка 1944 г. ад сябра Мікалая Паўлавіча Івана Мележа. Вядома, што ў 1939 г. Іван Паўлавіч паступіў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры. З першага курса ён быў прызваны ў Чырвоную Армію. Летам 1940 г. удзельнічаў у вызваленні Паўночнай Букавіны. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на фронце. У чэрвені 1942 г. пад Растовам Іван Мележ быў цяжка паранены і пасля лячэння ў тбіліскім шпіталі адпраўлены ў тыл. Восенню 1943 г. ён прыязджае на станцыю Сходня пад Масквой і становіцца студэнтам БДУ, дзе знаёміцца з былым франтавіком Мікалаем Лобанам. Яны не толькі разам вучацца, але і выкладаюць ваенную справу таварышам па вучобе. У верасні 1944 г. Іван Мележ наведаў сваю вызваленую радзіму — вёску Глінішча Хойніцкага раёна, адкуль даслаў сябру паштоўку. Вось яе змест: «Мікола! Ужо некалькі дзён, як я ў радзімых прасторах, дышу родным паветрам, гляжу на лясы, на жытнёвыя палі. Многа перажыта і перабачана за гэтыя дні, як мы рассталіся. Пасля калі-небудзь раскажу, а цяпер толькі ў некалькіх словах пра самае галоўнае. Перш за ўсё — мне так многа прыйшлося перацалавацца з роднымі, уключаючы і дзядкоў і бабулек, якіх я і не знаў раней, што я баюся, як бы мне часам не дасталося ад жонкі. Прашу захаваць гэта ў тайне, бо калі будзе патрабаваць яна адказ, то я заблытаюся, пералічваючы іх, і яна можа падумаць, што я абманваю і здраджваю. Па-другое, я ўзненавідзеў гарэлку і гасцепрыімных людзей. У адзін дзень мне прыйшлося пабыць у чатырох месцах такіх, і таварышы такія ўпартыя, што з тых пор я лічу за лепшае не сустракацца з імі, ведаючы свае мяккае сэрца. Акрамя гэтага за мной вельмі руплівы нагляд устанавіла мама. Яна ўсё хоча, каб я паправіўся, а я пасля маскоўскіх пайкоў такі дрэнны, што яна толькі сумуе. Па цэлым дням я хаджу у лугах, лясах, гляджу, чытаю, слухаю. Вельмі цікавыя рэчы прыходзіцца слухаць. Проста рукі чэшуцца, але пакуль маўчу. Дрэнна тут з газетамі. Ні радыё, ні газет. Прыблізна ў пятых числах верасня сустрэнемся. Будзь здаровы! Іван М.».

Афармлена паштоўка проста і лаканічна: пад чорна-белым малюнкам атакі нашых байцоў надрукавана цытата з Загада № 195 Вярхоўнага Галоўнакамандуючага І. В. Сталіна ад 1 мая 1943 г.: «Чырвоная армія павінна яшчэ мацней біць ворага, бязлітасна нішчыць нямецкіх захопнікаў, безупынна гнаць іх з Савецкай зямлі!» Адметнасць ваеннага часу — штэмпель «Прагледжана ваенная цэнзурай». Яшчэ адна дэталь: на штэмпелі ў правым верхнім рагу паштоўкі бачым, што горад Хойнікі ў той час уваходзіў у склад Палескай вобласці.

Тэма паштовак Вялікай Айчыннай неабсяжная і вартая спецыяльнага даследавання, але і тыя некалькі эпізодаў, пра якія я распавёў, паказваюць, як усімі магчымымі сродкамі наш народ набліжаў Вялікую Перамогу.

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

*Аўтар выказвае падзяку БДАМЛМ за прапанаваныя матэрыялы.*

# Акрайчык хлеба

Вельмі цяжка ўспамінаць перажытае мною і маімі роднымі ў маленькай лясной вёсачцы Машавое (Касцюковіцкі раён) падчас вайны.

Тры гады немцы рэгулярна наведваліся ў нашы мясціны на матацыклах. Забіралі ўсё, асабліва хатніх жывёл. Палілі хаты. Вельмі страшна было, калі прыляталі варожыя самалёты. Мы іх называлі «бараною», ці «рамаю». Яны гудзелі так жудасна, што нас літаральна паралізавала. Мы падалі на зямлю з раскінутымі ў бакі рукамі, як вучыла маці, быццам забітыя, і ляжалі нерухома. Вось над намі са страшэнным ровам вельмі нізка ляціць самалёт, лётчык строчыць з кулямёта і крычыць: «Рус! Капут!»

Цела сціскалася ад жаху. Вакол свісцяць кулі і падаюць побач: «цвік! цвік!» Сэрца выскоквала з грудзей. Самалёт яшчэ доўга кружыў над сядзібамі, а пераканаўшыся, што людзі ўжо не варушацца, знікаў. Бомбы, якія не разарваліся, маці знаходзіла і складвала ў яму каля рэчкі.

Мы пастаянна хаваліся ў лесе: там былі партызаны, а акупанты баяліся сунуцца далей за вёску. Але аднойчы немцы з'явіліся нечакана... Зайшлі ў нашу хату, схапілі фотаздымак бацькі ў ваеннай форме, які ляжаў на стале, і, адарваўшы галаву, кінулі картку на падлогу, пачалі таптаць нагамі. Потым паставілі маці да сценкі і закрычалі:

— Партызан! Камуніст! Дзе партызан?!

Маці плакала:

— Не ведаю! Нічога не ведаю!

Мы дрыжалі ад страху ды плакалі. Калі ў хаце рабілася гучна, немцы стралялі ў столь. Адзін з іх заўважыў акрайчык хлеба на лаўцы (маці не паспела схаваць), падбег і ўзяў яго. Я кінулася да немца, схапіла яго зубамі за руку. Ён ускрыкнуў, тузануў мяне за валасы і шпурнуў з усіх сіл пад стаўні (станок, на якім маці ткала палатно). Я разбіла нос, пайшла кроў. Маці самлела і ўпала. Фашысты стрэлілі ў столь, забралі хлеб і пайшлі.

Маці падбегла да мяне, падняла і пачала абліваць твар халоднай вадой ды загаласіла:

— Што ж ты нарабіла, мая роднелькая?! Нас жа ўсіх маглі забіць!

Змыла кроў, адарвала ад фіранкі кавалачак тканіны і перавязала распухлы нос. Ён застаўся перабітым і па сёння, на месцы моцнага ўдару ўтварылася гранулёма, якая не падлягае аперацыі. Дыхаць цяжкавата.

Аднойчы ранкам зноў прыйшлі фашысты, загадалі апрануцца. Пастроілі ў шарэнгу маці, сястру Валю, братоў Сеню і Сцяпана... Мяне маці ўзяла за руку. Пагналі нас у хату Сідара ля ракі. Дом быў поўны людзей. Фашысты бегалі па вёсцы, шукалі керасін — без яго зімою не падпаліць.

У вёсцы Дуброўка спалілі старых мужчын, нас не паспелі. Выратавалі партызаны, якім паведаміў пра ўсё настаўнік Сігей. На жаль, сам ён загінуў.

Успамінаецца вельмі цяжкае ваеннае дзяцінства. Зямлянка, салома замест падушак і коўдры. Наша хата згарэла, а Сідарава стаіць па сёння. Як помнік, што нагадвае пра жах, які даваліся перажыць маім аднавяскоўцам. Калі прыязджаю на малую радзіму наведаць магілу бацькоў, абавязкова заходжу ў гэту хату. Перад вачыма адразу паўстае страшная карціна: натоўп людзей і ціхі плач… Забыць немагчыма.

Галадалі. Бралі рыдлёўкі, лом, ішлі ў поле — шукалі гнілую бульбу. Радаваліся, калі знаходзілі. Зімой было асабліва цяжка. Пастаянна хварэлі: хадзілі напаўголыя, без абутку. Не было лекаў, мыла, солі. Усіх жывёл забралі немцы. Летам было лягчэй — ягады, шчаўе, крапіва, снытка.

У 1943 годзе маці адправіла нас з братамі хадзіць па вёсках і прасіць міласціну. Выйшлі мы на Бараньkоўскі шлях, там нас злавілі фашысты. Сеню, у якога былі чорныя густыя валасы, хацелі забіць — прынялі за яўрэя. Сцяпан гучна заплакаў і сказаў, што брат — беларус, бо ў яго вочы блакітныя. Адзін з немцаў схапіў Сеню за бараду і пачаў пільна разглядаць. Потым нас закінулі ў кузаў, павезлі кудысьці і кінулі за дрот. Там мы былі дзесяць дзён.

Выратавала нас жанчына з Белынковічаў, якая мыла немцам бялізну. У яе была буханка хлеба ды кансервы. Вострым каменнем прабіла крышку банкі, адламала хлеб, паліла яго юшкай і дала нам паесці. Дадому дабіраліся больш як два дні.

Наша выратавальніца — Алена Самуілаўна Раманенка — пахавана ў вёсцы Белынковічы. Жыццёвыя абставіны склаліся так, што мы больш яе ніколі не бачылі. Сустракаліся з ёй мае бацькі, дзякавалі за выратаванне.

Пасляваенны час таксама вельмі цяжкі. У школу хадзілі з ваўкамі —вельмі шмат іх развялося. Не было каму адстрэльваць. Адзін буквар амаль на трыццаць чалавек. Пісалі на газетах, чарніла рабілі з ягад крушыны. Пяро зорачка адзінаццаты нумар захоўвaецца ў мяне па сёння. Прывязвалі яго ніткамі да дубца і пісалі.

**Тамара ЛЯЛІХАВА**

# Інтэрнэт-навіна

Новы інтэрнэт-праект, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі, распрацаваны ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Сайт «Слава героям БДУ» стварылі студэнты факультэта сацыякультурных камунікацый. Асноўным лейтматывам праекта стаў дэвіз «Каб памяталі!», і адрасавана гэта інтэрнэт-навіна моладзі ўніверсітэта.

Тэматычныя старонкі сайта распавядаюць пра першыя дні вайны, дзейнасць БДУ падчас эвакуацыі, героях-добраахвотніках, якія пайшлі на фронт проста з аўдыторый, пасляваенае ўзнаўленне ВНУ.

Чорна-белы дызайн забяспечвае якасны малюнак васьмі змястоўных рубрык: «Героі БДУ», «Вайна ў слайдах», «Мы і Перамога», «Музей Вялікай Айчыннай вайны», «БДУ падчас Вялікай Айчыннай вайны», «Ваенныя плакаты», «Ваенныя песні», «Горад-герой Мінск і Брэсцкая крэпасць».

Пры дапамозе візуальнага рада наведвальнікі інтэрнэту ўбачаць 12 Герояў Савецкага Саюза — былых супрацоўнікаў і студэнтаў БДУ, разбураныя ў 1941 годзе і аднаўленыя ў 1945-м вучэбныя карпусы, архіўныя фотаздымкі даваеннага Мінска, экспазіцыі абноўленага Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Змешчана таксама бліц-апытанне студэнтаў, звязанае з трагічнымі падзеямі мінулага.

Мяркуецца, што сайт будзе ўдасканальвацца і абнаўляцца новымі візуальнымі і інфармацыйнымі матэрыяламі. Напрыклад, тут змесцяць фотаздымкі пра святкаванне ў БДУ 70-годдзя Вялікай Перамогі і Дня Незалежнасці Беларусі.

Дарэчы, на 21 чэрвеня 1941 года ў БДУ была запланавана навуковая сесія, прымеркаваная да 20-годдзя ўніверсітэта. Да гэтай падзеі падрыхтавалі вялікую выстаўку навукова-адукацыйных дасягненняў ВНУ. Але галоўная частка імпрэзы і пасяджэнне вучонага савета павінны былі адбыцца 29 чэрвеня… Менавіта ў гэты дзень у Мінск увайшлі акупанты. Будынак фізічнага факультэта (цяпер — рэктарат) занялі нямецкія сувязісты, у біялагічным корпусе размясціліся камендатура горада і вобласці, у медыцынскім — гестапа.

У маі 1943-га Савет Народных Камісараў прыняў рашэнне аднавіць працу БДУ на новым месцы — на станцыі Сходня, недалёка ад Масквы. Маскоўскі ўніверсітэт і іншыя ВНУ падзяліліся з БДУ неабходнымі для вучобы матэрыяламі, і ўжо ў кастрычніку амаль 300 беларускіх студэнтаў прыступілі да заняткаў.

**Раіса МАРЧУК**

# Гімн памяці

**Да 70-годдзя Вялікай Перамогі**
**Цэнтр нацыянальных культур сумесна з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры і Саюзам пісьменнікаў Беларусі зладзілі ўрачысты канцэрт. На адной сцэне выступілі пісьменнікі, артысты з мінскіх тэатраў, спявачкі з ансамбляў, студэнты ВНУ і музычных каледжаў, барды.**

У зале — два пакаленні: тыя, хто бачыў вайну сваімі вачыма, і сучасная моладзь. Хоць пра жахі мінулага маладыя ведаюць толькі з фільмаў і кніг, але подзвігі продкаў шануюць. Пранікнёныя вершы і шчырыя ваенныя песні стварылі ўтульную атмасферу, але сэрца агортваў сум. Ваенныя фотаздымкі на экране — пранізлівая хроніка мінулых падзей.

Пісьменнік Мікола Чарняўскі прачытаў верш, прысвечаны герою палка, а яго калега па творчым цэху Валянціна Паліканіна распавяла ў рыфмаваным слове пра славу Перамогі. Маладыя паэткі Наста Кузьмічова і Яна Явіч прачыталі свае лірычныя «маніфесты»: «9 Мая» і «Памяць сэрца».

Зачаравала выкананне студэнтам аднаго з ВНУ лірычнай песні «Цёмная ноч» на словы Уладзіміра Агатава і музыку Мікіты Багаслоўскага. Можа, не ўсе глядзелі фільм «Два байцы», для якога яна была напісана, але наўрад ці знойдзецца той, хто не ведае і не любіць гэтай кампазіцыі. Цудоўныя аўтарскія песні пад акампанемент гітары выканаў бард Аляксей Нежавец. Адну з іх, пад назвай «Сон», ён напісаў разам з паэтам Анатолем Зэкавым.

Выступіла таксама вядомая артыстка размоўнага жанру, майстар мастацкага чытання Беларускай дзяржаўнай філармоніі Зінаіда Феакціставa. Не застаўся ўбаку і ансамбль народнай песні «Крыніца». Дзяўчаты адмыслова выканалі ваенную кампазіцыю. «Разынкай» канцэрта стаў сапраўдны армянскі танец у выкананні таленавітых хлопцаў і дзяўчат.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Жыццёвае*

# Выратавала кемлівасць

Гэтую гісторыю распавяла маёй маці жанчына, якую ўсе звалі Кохáна. Яна доўгі час жыла на хутары, а пры размове любіла прыгаворваць: «Кохана» — адсюль і мянушка.

Вакол яе сядзібы — хмызнякі ды балота. У вайну на хутар часта заходзілі партызаны, каб пагрэцца ды адпачыць. Хтосьці пра гэта даведаўся і данёс немцам. Кохану, маці дзвюх маленькіх дзяўчынак, адразу арыштавалі. За сувязь з народнымі мсціўцамі прыгаварылі да расстрэлу.

І вось жанчыну разам з іншымі вязнямі вядуць за горад, дзе цяпер стаіць Драгічынская аўтастанцыя. Тады тут рос густы хмызняк. Перад ім і паставілі акупанты сваіх ахвяр. Побач з Коханай аказаўся Іван з вёскі Равіны, партызан. Жанчына яму хуценька шапнула: «Калі пачнуць страляць, бяжым. Ты — у адзін бок, я — у другі. Толькі бяжы як заяц, пятляючы». Іван пагадзіўся.

…Толькі пачуліся першыя стрэлы, абодва рванулі ў хмызняк. Немцы, зразумела, вельмі старaліся пацэліць у іх, але, на шчасце ўцекачоў, прамахнуліся.

Пасля вызвалення Кохана вярнулася да сваёй сям'і. Вакол яе сядзібы вырас лес, куды хадзіла ў грыбы і мая маці. Аднойчы зайшла да хутаранкі папіць вады, вось і пачула яе расповед. Дочкі Коханай выраслі, займелі сваіх дзяцей. Перажыў ваенныя ліхалецце і Іван, дачакаўся ўнукаў ды праўнукаў.

У сувязі з гэтай гісторыяй мне ўспомнілася прытча пра жабяня, якое трапіла ў смятану, але не разгубілася: хуценька пачало перабіраць лапкамі і… збіла масла. Так і кемлівая Кохана не скарылася лёсу, а скумекала, як і самой выратавацца, і другому чалавеку жыццё ўратаваць.

**Святлана ЕРМАКОВА**

# Шчодры Юр'я

**«Адамкнуць зямліцу, выпусціць расіцу» прасілі ўдзельнікі канцэртна-абрадавай дзеі «Юр'я», арганізаванай Беларускім дзяржаўным музеем народнай архітэктуры і побыту разам з Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў у межах IX Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання і вывучэння». Дзея разгарнулася на тэрыторыі музея.**



*Гурт «Міжрэчча» ўпрыгожвае карагод.*

Юр'я — адно з найбольш шанаваных свят беларускага народнага календара па абрадавым напаўненні. Адзначаецца 6 мая і сімвалізуе сапраўдны пачатак вясны. Лічылі, што з гэтага дня пачынае кукаваць зязюля, зямля ўбіраецца ў зеляніну, а ад жыватворнай расы ўсё расце і красуе. На Юр'я прыпадаў першы выпас жывёлы.

— Гэтае свята паходзіць з самых старажытных часоў, калі выганялі ў поле жывёлу, бо галоўным у нашых продкаў была жывёлагадоўля, — распавёў каардынатар праекта, загадчык культурна-адукацыйнага аддзела музея Аляксандр Шавель. — З распаўсюджваннем земляробства ўзнік яшчэ абрад абходу жытнёвай нівы.

Узнавіць абрадавую дзею з'ехаліся фальклорныя калектывы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў «Этна-Суполка», «Страла», «Раме», «Вяснянка», а таксама маладзёвыя гурты «Мілавіца», «Явар», «Рада» ды іншыя. Госць з Літвы — гурт «Жалейка». Рэй вёў народны фальклорны ансамбль «Міжрэчча» з вёскі Пагост Жыткавіцкага раёна. У іх выкананні госці ўбачылі ўнікальны абрад свята Юр'я — «Тураўскі карагод», унесены ў спіс помнікаў нематэрыяльнай культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.

Карагодам, дарэчы, называюць святочны абрадавы хлеб. Выглядае ён як каравай, але знаўцы пазначаюць дэтальныя іх адрозненні.

«У карагод некалькі раз падсыпаюць мукі, льюць ваду, варушаць і ўвесь час просяць, каб ураджай быў, — тлумачыць кіраўнік гурта «Міжрэчча» Кацярына Панчэня. — Тут і словы такія: «Ой выйшлі на поле, попросем мы Бога одмыкнуць зямліцу, выпусціць расіцу на цёплае лета, на буйнае жыта». Пруткі для ўпрыгожвання карагода можна са слівы рэзаць ці з яблыні, а на каравай — толькі з вішні. Такім чынам, каравай — для вяселля, а карагод адзін раз у год водзяць — пяць карагодаў у вёсцы не будзе». Дасведчаныя асобы кажуць, што сутнасць схавана ў частцы «кар»— «вывадзіці». Вывадзілі племянную жывёлу — быка, тура. Ад тура пайшлі ўсе іншыя віды скаціны.

Карагод на свяце быў у цэнтры ўвагі. Пачалі з упрыгожвання. З песняй «Карагод, карагод, мы цябе наражаем / Ой, венцы-венцы, зялёны бярвенцы» ўдзельнікі «Міжрэчча» аздаблялі галінкамі з запечанымі палоскамі цеста (для ўраджаю), рознакаляровымі стужкамі. Карагод і дзявочы: своеасаблівая ініцыялізацыя дзяўчыны.

Наступная дзея — выстройванне абрадавай калоны: першы з іконай Божай Маці, за ім — граблі з зялёным фартухом (для жыта), трэці нясе хлеб — упрыгожаны карагод. З песнямі і прыпеўкамі абыходзілі жытнёвую ніву, потым — двары, дзе гаспадары адорвалі ўдзельнікаў.

Працягнулася праграма на Юраўскай гары. Тут усіх чакала смачная частка свята — частаванне юраўскай яечняй, а таксама канцэрт фальклорных калектываў. Насычанымі выступленнямі парадавалі ўдзельнікі гурта «Мілавіца» (кіраўнік Марыя Снітко). 13-гадовы Ягор Анікейчанка ў калектыве ўжо 8 гадоў, іграе на баяне. Імправізуе і маленькі гарманіст Цімафей Саўко. Матвей Зайко іграе на акарыне. Хлопцы займаюцца ў Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «Ветразь».

Прысутныя развучвалі танцы: «картузэ», «грэчанікі», «падэспань», лявоніху, польку. Можна было пагуляць у абрадавыя гульні, пагушкацца на арэлях, пакатацца на конях, поні. Толькі паспявай!

Дырэктар музея Эдуард Багдановіч адзначыў важнасць такіх мерапрыемстваў у адраджэнні традыцый. Адчувальны ўнёсак і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

— Мы працуем на кафедры этналогіі і фальклору (спецыялізацыя — «Этнафоназнаўства») і маем на мэце ўзнаўленне гукавых эталонаў,— адзначыла вядучая мерапрыемства, аўтар сцэнарыя, старшы выкладчык кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Таццяна Пладунова. — А як гукавыя эталоны без свята? Ядро — каляндарна-абрадавыя песні. На гэта накіраваны асноўны цыкл дысцыплін. У якіх формах іх увасабляць? У мастацкай рэканструкцыі свята. Музей гэтаму спрыяе. У мінулым годзе мы ладзілі Зялёныя святкі, два гады таму — Купалле, было і гуканне вясны. Сёлета паспрабавалі зрабіць міжрэгіянальную прэзентацыю Юр'я, каб былі прадстаўлены ўсе акцыянальныя коды, гэта значыць усе этапы абрадавых дзей Юр'я.

Завяршылася свята каштаваннем карагоднага хлеба.

**Наталля СВЯТЛОВА, фота аўтара**

# Тысяча і адна ноч… у бібліятэцы

**Днямі ў галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрылася персанальная мастацкая выстаўка Марыны Эльяшэвіч «Азербайджан вачыма беларускай мастачкі».**

Экспазіцыю складаюць творы, якія перадаюць прыроднае хараство сяброўскай краіны, шчодрасць нацыянальнага характару азербайджанцаў і выклікаюць захапленне ў гледачоў незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці. Асабліва прыцягвала позіркі серыя карцін «Азербайджанскія прыгажуні», дзе вобразы сучасніц дапаўняюць чароўныя гераіні казак «Тысяча і адной ночы».

Як адзначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ісфандзіяр Бахціяр аглы Вагабзадэ: «Сёння, акрамя пашырэння палітычных і эканамічных сувязей, узнікае неабходнасць набліжаць культурныя каштоўнасці нашых краін. Мастацтва — мост, які злучае нашыя брацкія народы. Ёсць упэўненасць, што беларуска-азербайджанскія стасункі будуць і надалей плённа развівацца ды ўзбагачацца новымі прыкладамі ўзаемнай падтрымкі і супрацоўніцтва».

У сваіх творах Марына Эльяшэвіч прадставіла ўвазе гледачоў непаўторныя абрысы сусветна вядомых помнікаў азербайджанскай архітэктуры рознага часу: Дзявочая вежа ў Баку, мячэць Бібі-Эйбат ды інш. Нацюрморты дэманструюць багацце кветак і пладоў шчодрай азербайджанскай зямлі: тут і хурма, і вінаград, і гранаты...

На выстаўцы прадстаўлена больш як 40 жывапісных палотнаў, праца над якімі ішла амаль паўгода. Некаторыя работы засталіся ў запасніку — не хапіла выставачнай прасторы. Па прызнанні мастачкі, у Азербайджане яна пакуль не была. Але ў якасці культурнай «шпаргалкі» Пасольства Азербайджана прадаставіла ёй усе неабходныя матэрыялы: фатаграфіі, карціны, музыку і фільмы нацыянальных майстроў.


*Марына Эльяшэвіч.*


*«Мячэць Бібі-Эйбат».*


*«Фруктовы вальс».*

Нацюрморты, партрэты і пейзажы створаны Марынай Эльяшэвіч у традыцыйнай кітайскай тэхніцы го хуа. Сучасныя вобразы мастачка перакладае на мову старажытнага жывапісу пры дапамозе кітайскага пэндзля, мінеральных фарбаў, тушы і рысавай паперы. Гэтаму няпростаму мастацтву творца навучалася ў Пекіне, і ўжо больш як пяць гадоў бамбукавыя палотны Марыны Эльяшэвіч заваёўваюць не толькі новыя галерэйныя прасторы — многія працы пасля экспазіцый разыходзяцца па прыватных калекцыях.

**Таццяна ШЫМУК**

# Мелодыі з дзяцінства

**Напрыканцы красавіка музычны свет адзначыў 175-годдзе з дня нараджэння вялікага рускага кампазітара Пятра Чайкоўскага. Да юбілею творцы Вялікі тэатр Беларусі прымеркаваў паказ яго лепшых оперных і балетных спектакляў: оперы «Яўген Анегін» і «Пікавая дама», балеты «Лебядзінае возера» і «Шчаўкунок, або Яшчэ адна калядная гісторыя».**

Тонкі псіхолаг, майстар-сімфаніст, музычны драматург, П. Чайкоўскі стварыў выбітныя ўзоры опер, балетаў, сімфоній, камерных твораў. Стаў наватарам у балеце, зрабіўшы музыку вядучым кампанентам балетнай драматургіі. Да сусветных шэдэўраў Пятра Ільіча належаць яго сімфоніі, уверцюра-фантазія «Рамэа і Джульета», фантазія «Франчэска да Рыміні», «Італьянскае капрычыа», канцэрты для фартэпіяна з аркестрам, для скрыпкі з аркестрам, рамансы і інш.

Юбілей кампазітара — значная міжнародная музычная падзея. На працягу чатырох вечароў, з 23 па 26 красавіка, 18 таленавітых маладых выканаўцаў, многія з якіх з'яўляюцца лаўрэатамі міжнародных конкурсаў, прадставілі публіцы праграму, якая ахапіла як творы для інструментаў сола (скрыпка, віяланчэль), так і для інструментальных ансамбляў. Арыгінальныя аранжыроўкі падрыхтаваў секстэт духавых і ўдарных інструментаў «A.M.A.DIS BRASS»: знакамітыя марш з балета «Шчаўкунок», «Рускі танец» і «Неапалітанскі танец» з «Лебядзінага возера», «Элегію».


*Сцэна з балета «Лебядзінае возера».*

Музыкі выканалі п'есы з фартэпіяннага цыкла «Поры года», «Дзіцячага альбома», «Сентыментальны вальс», «Накцюрн», Струнны квартэт № 1 рэ мажор і інш. Гледачы змаглі пачуць, як папулярныя творы гучаць у перакладзе для валторны або трамбона.

Канцэрты ў тэатральным фае сталі сапраўдным падарункам для гледачоў, якія прыйшлі на спектаклі.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. С. Мастоўскі

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 29.04.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2229.

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1469 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12